13 чэрвеня 2020 | № 22 (681)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Катастрофа 1940-га**
**Стар. 9**



# У кагосьці здалі нервы



Сяргей ПУЛЬША

**Ніхто не мог спрагназаваць, што сёлетняя прэзідэнцкая кампанія будзе настолькі актыўнай. Абвясціўшы выбары, улада яўна разлічвала на чарговую «элегантную перамогу». Але нешта пайшло не так.**

Канешне, кадры са збору подпісаў за альтэрнатыўных прэтэндэнтаў на вышэйшую дзяржаўную пасаду ўражваюць, як уражваюць і лічбы. Ужо тры ініцыятыўныя групы — Валерыя Цапкалы, Віктара Бабарыкі і Ганны Канапацкай — абвясцілі, што сабралі неабходныя для рэгістрацыі кандыдатам у прэзідэнты 100 тысяч подпісаў (і нават значна больш).

Відавочна, такога ўлады не чакалі. А таму вырашылі дзейнічаць паводле звыклага сцэнару, запусціўшы (па меркаванні некаторых, заўчасна) машыну рэпрэсій. Па ўсёй краіне прайшлі затрыманні чальцоў ініцыятыўных груп Ціханоўскай. Яе мужу і некаторым яго таварышам навесілі «крыміналку» па частцы 1-й артыкула 342 — арганізацыя групавых дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак. Гэта той самы артыкул, па якім судзілі большасць фігурантаў «Плошчы–2010».

Звыкла адправілі на 15 сутак Мікалая Статкевіча і Паўла Севярынца. Камітэт дзяржкантролю прыйшоў з вобшукам у «Белгазпромбанк», кіраўніком якога быў Бабарыка, і яго структуры, па традыцыйнай справе аб няспалаце падаткаў.

А Лукашэнка ўжо ў які раз правёў нараду з «сілавым блокам краіны».

Падаецца, у кагосьці папросту здалі нервы. Прычым, улада палохае саму сябе. Ёй паўсюль мрояцца прывіды «майдану», «плошчы» і іншых масавых беспарадкаў. Гэтыя жахі, напэўна, увасобіліся ў чэргах жадаючых аддаць свой подпіс за альтэрнатыўных кандыдатаў у прэзідэнты. «Вось ён, Майдан!» — вырашыў нехта наверсе і звыкла пачаў «закручваць гайкі».

Спробы нас запалохаць апошнім часам — даволі рэгулярныя. Гэта не толькі нягеглая і бяздоказная «крыміналка» Ціханоўскаму. Ці Лукашэнка загадвае сілавікам не дапусціць «ператварэння збору подпісаў у несанкцыянаваныя мітынгі і масавыя мерапрыемствы з парушэннем усіх мажлівых і немажлівых законаў і нормаў маралі». Ці ён жа заявіць, што «спачатку прадстаўнікі шэрагу ініцыятыўных груп злоўжываюць правам на правядзенне пікетаў для разгойдвання сітуацыі і дэстабілізацыі грамадска-палітычнага становішча, потым яны сфарміруюць каманды і групы баевікоў, якія, не выключана, захочуць арганізаваць пабоішча на плошчы». Ці новы міністр інфармацыі, не паспеўшы прыйсці на пасаду, заявіць, што будзе «карэктаваць дзеянні СМІ, каб забяспечыць давядзенне выразнай дзяржаўнай палітыкі і абмежаваць насельніцтва ад інфармацыі, якая наносіць шкоду дзяржаве» (чытай, уводзіць цэнзуру).

Ну і «вішанька на торце», канешне ж, словы Лукашэнкі пра тое, што «забыліся, як былы прэзідэнт Карымаў у Андыжане здушыў путч, расстраляўшы тысячы чалавек… Ну, дык мы нагадаем».

Дзяржаўныя ідэолагі жывуць старымі штампамі, старымі напрацоўкамі і старымі ідэямі. Ім падаецца: тое, што працавала раней, павінна працаваць і цяпер. Таму і ўзнікаюць у іх уяўленні «майдан», «плошча», «баевікі» і іншыя «пацукі ў ваданраводзе».

І ўсе гэтыя «жахі» вышэйшае дзяржаўнае кіраўніцтва імкнецца прадукаваць у грамадства. Нібыта, «без нас» будзе хаос і паніка. І, можа быць, такім чынам яны пераконваюць самі сябе (і імкнуцца пераканаць грамадства), што ўсе рэпрэсіі — дзеля «стабільнасці і мірнага жыцця».



Затрыманні. 7 чэрвеня 2020 года

Фота Уладзь Грыдзін. Радыё Свабода

**Спробы «папалохаць бізуном» паказваюць, што акрамя бізуна ўладзе няма на што разлічваць**

Але рэальнасць, як звычайна, цікавейшая за выдумку. Найперш таму, што прадукаваныя ў грамадства страхі ўлады ўжо не дзейнічаюць.

Беларусы пачалі выстройвацца ў чэргі да альтэрнатыўных прэтэндэнтаў у прэзідэнты таму, што ім абрыдла «стабільнасць». Яны больш не вядуцца на «жахі майданаў», бо ва ўкраінцаў — бязвіз з Еўропай, а мінімальны заробак — гэта наш «нармальны» заробак у рэгіёне. Людзі цяпер — за любы «дзвіж» (напэўна, акрамя галадоўкі). Ніхто не верыць у «баевікоў», бо іх было зашмат: у 2006-м, у 2010-м, у «Белым легіёне»… І людзям абрыдла, што ім увесь час хлусяць і спрабуюць запалохаць.

Народ перастае баяцца. Рэпрэсіі цяпер выклікаюць не боязь, а салідарнасць. Раней, можа быць, і можна было б пасадзіць нейкага «лідара», каб уся «дзвіжуха» рассмакталася, але не сёння. Цяпер адна «дзвіжуха» выклікае іншую — грошы на штраф за ўдзел у зборы подпісаў праз краўдфандынг збіраюцца за 10 хвілін, а доктару, звольненаму за тое, што расказаў пра сапраўдны стан з эпідэміяй COVID-19, за вечар назбіралі гадавы заробак.

І вось гэта для ўлады самае небяспечнае — што людзі з «народца» і «электарату» пертвараюцца ў грамадзян. Грамадзян, якія бачаць: такіх, як яны, — шмат. Якія адчуваюць: «у выпадку чаго» яны не застануцца сам-насам і могуць разлічваць на падтрымку не толькі сяброў і родных. Але і таго, што мы агульна называем «грамадствам» і «грамадзянскай супольнасцю». І гэта — найлепшыя лекі ад страху, які нам плануюць навязаць «зверху» праз «крыміналку» Ціханоўскага і трансляцыю ўладных жахаў.

Спробы «папалохаць бізуном», хутчэй, паказваюць, што акрамя бізуна ўладзе няма на што разлічваць. А таму грамадства і надалей будзе падтрымліваць іншае і іншых: тых, каму ёсць што прапанаваць — апроч штрафаў і дубінак.

13 чэрвеня 2020 | № 22 (681) Новы Час

# Як не трэба падтрымліваць

Міхаіл БРОШЫН

**На фоне чэргаў ля пікетаў альтэрнатыўных прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта непазбежна ўзнікала пытанне: а дзе ж зборшчыкі подпісаў за Лукашэнку?**

Дзе гэтыя «няўлоўныя прывіды», якія сабралі, паводле сцвярджэння кіраўніка ініцыятыўнай групы Лукашэнкі, старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Міхаіла Орды, 200 тысяч аўтографаў за лічаныя дні?

Доўгі час прыхільнікі кіраўніка краіны аднекваліся: маўляў, нам і хадзіць асабліва нікуды не трэба, да нас у прыёмныя «Белай Русі» людзі самі натоўпамі ідуць, каб «распісацца за стабільнасць». Але ў выніку ўсё ж было вырашана правесці паказальны пікет. Аднак якасна арганізаваць нават разавую пастаноўку для структураў, якія падтрымліваюць Лукашэнку, аказалася невырашальнай праблемай.

Ля Мінскага гандлёвага цэнтра Dana Mall выставілі 6 намётаў: па два ад ФПБ, «Белай Русі» і БРСМ. Да іх арганізавана выстраіліся чэргі агульнай колькасцю ў некалькі дзясяткаў чалавек.

Колькасць удзельнікаў гэтага перфомансу ўжо сама па сабе была паказальная. На наступны дзень у Ваўкавыску чарга жадаючых паставіць подпіс за Святлану Ціханаўскую дасягала 150 чалавек. А тут — у сталіцы, апоры ўлады, як яе называў сам Лукашэнка, сабралі разы ў два менш.

Мала таго, і гэтыя ўдзельнікі масоўкі наплявалі на канспірацыю. Адыграўшы сваю ролю, яны накіроўваліся да прыпаркаваных непадалёк аўтобусаў, на якіх «самастойна і па закліку сэрца» прыбылі падпісацца за Лукашэнку.

Гэта значыць, на хвілінку, ФПБ з яе «мільённым сяброўствам», «Белая Русь» і БРСМ, якія дэкларуюць колькасць у сотні тысяч чалавек на кожную з арганізацый, сабралі на эксклюзіўнае прадстаўленне мізэрную колькасць статыстаў.

Правал быў бы аглушальным, але не ідэальным без сцэнкі, якая ўпрыгожыла дзейства. Крэатыўнікі з БРСМ вырашылі, што на акцыі трэба пакпіць з журналістаў з пытаннямі «чаму Радзіму прадаяце?». Скончылася гэта тым, што «патрыёты» накінуліся на свайго: «Колькі вам заплацілі?». Ды не на каго-небудзь, а на кіраўніка ініцыятыўнай групы Лукашэнкі! Пікантнасці дадае тое, што бээрэсэмаўцы не пазналі былога кіраўніка ўласнай арганізацыі!

З такімі «апорамі», мабыць, ворагі ўжо не патрэбныя.

**Паводле gazetaby.com, пераклад НЧ**

# Вы служыце Народу, а не асобным палітыкам!

**Гэты зварот з'явіўся ў 1996 годзе напярэдадні рэферэндума, які стаў пачаткам спаўзання нашай краіны ў аўтарытарызм. Яго напісаў тады ўжо экс-міністр унутраных спраў Юры Захаранка. Сапраўдны афіцэр, гонар беларускай міліцыі... Гэты зварот захаваўся ў архіве сям'і. Прапануем вам яго ў перакладзе на беларускую мову.**

**ЗВАРОТ**

Экс-міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь Юрыя Мікалаевіча Захаранкі

Кастрычнік 1996 года

да кіраўнікоў і супрацоўнікаў службаў, органаў, падраздзяленняў, унутраных войскаў, Камітэта дзяржаўнай бяспекі, Міністэрства абароны, іншых сілавых ведамстваў і структур Рэспублікі Беларусь

Паважаныя Афіцэры, прапаршчыкі і радавыя!

Звярнуцца да вас вымушаюць мяне тыя трывожныя падзеі, якія бударажаць Беларусь апошнія два гады. Не стану даваць палітычных ацэнак дзеянням прадстаўнікоў выканаўчай улады. Я хачу толькі як афіцэр і грамадзянін асвятліць іх з пазіцый права і прынцыпу ўсеагульнай роўнасці перад законам. Канстытуцыйным Судом Рэспублікі Беларусь ужо дадзена прававая ацэнка асобным дзеянням грамадзяніна Лукашэнкі, які знаходзіцца на пасадзе прэзідэнта. Гэтая ацэнка настолькі сур'ёзная, што выканаўчай уладзе даводзіцца прымаць надзвычайныя меры. Прызначаны прэзідэнтам рэферэндум — гэта спроба сысці ад адказнасці, схаваць дзеі прэзідэнцкай каманды, якія прама ці ўскосна падпадаюць пад дзеянне Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Узгадайце толькі некаторыя эпізоды — збіццё народных дэпутатаў, рэпрэсіі супраць незалежнай прэсы і работнікаў мінскага метро, расправы над удзельнікамі мірных санкцыянаваных дэманстрацый, фактычны ўдзел у буйных эканамічных злачынствах, якія нанеслі велізарны ўрон нашай дзяржаве. Сітуацыя ў краіне абвастрылася да такой ступені, што Лукашэнка і яго каманда гатовыя да самых неразумных дзеянняў. У гэтай каманды няма шляху да адступлення. Гэтыя людзі перайшлі рысу, за якой — толькі новыя злачынствы. Чалавек, які прысягнуў на Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, цынічна і груба парушыў яе.

Палітыкі прыходзяць і сыходзяць, а Закон застаецца. А вы стаіце на варце Закона. І служыце НАРОДУ, а не асобным палітыкам. І калі нейкія групоўкі спрабуюць, выкарыстоўваючы ў сваіх інтарэсах, уцягваць міліцыю і армію ў свае злачынныя гульні, вы павінны памятаць пра свой абавязак і не паддавацца на правакацыі. За ўсякае злачынства, а тым больш за злачынства супраць народа, рана ці позна давядзецца адказаць кожнаму, хто пераступіў Закон. Сёння на вуліцы выходзяць не бандыты і не найміты заходніх спецслужбаў, як гэта сцвярджае афіцыйная прапаганда. Лепшыя людзі нашай краіны, тыя, хто не страціў гонар і сумленне, адчайна спрабуюць спыніць наступ дыктатуры. Гэта вашы браты і сёстры, вашы бацькі і маці. Не падмінайце па іх руку. Не станавіцеся саўдзельнікамі злачынных дзей высокапастаўленых авантурыстаў.

Дыктатура яшчэ нікому не прынесла шчасця і росквіту. Яе канец заўсёды адзін: гістарычны тупік, Нюрнберг.

Я звяртаюся да вас, супрацоўнікі ўсіх падраздзяленняў спецыяльнага прызначэння. Палітычныя авантурысты, гатовыя дзеля ўтрымання ўлады пайсці на ўсё, менавіта на вас зробяць галоўную стаўку. Не дайце падставіць сябе. Не паддавайцеся на правакацыі безразважных палітыкаў, якія паставілі свае шкурныя інтарэсы вышэй за краіну і народ. Памятаеце, што вы — абаронцы народа. На вас з надзеяй і верай глядзіць краіна. Сапраўднага афіцэра і салдата заўсёды вызначаюць гонар і сумленне. АБАРОНЦА НАРОДА НЕ МОЖА СТАЦЬ ЯГО КАТАМ.

Я веру вам, спадзяюся на вас і жадаю вам поспехаў у вашай нялёгкай службе і шчасця вашым сем'ям. Я веру, што ўсе мы будзем жыць у свабоднай, квітнеючай прававой дзяржаве. Іншага нам не дадзена.

**З сямейнага архіва сям'і Юрыя Захаранкі**

# Сцяг адбіраюць не для таго, каб яго ўзняць

Вінцук ВЯЧОРКА, РАДЫЁ СВАБОДА

**Энергія пратэсту можа быць вельмі плённай, калі прыводзіць да ўспрымання інакшай сістэмы каштоўнасцяў. Так было ў канцы 1980-х — пачатку 1990-х.**

Калі развальвалася савецкая імперыя, тыя, хто прагнуў свабоды ад камунізму, рабіліся і прыхільнікамі незалежнасці ды нацыянальнага адраджэння або прынамсі добра да апошняга ставіліся. Моцны, як на датуляшнюю беларускую савецкую рэальнасць, добра бачны і чутны грамадска-палітычны рух — Беларускі Народны Фронт — фармуляваў неразрыўнасць каштоўнасцяў свабоды, незалежнасці Беларусі, нацыянальна-моўнага адраджэння і заходняга цывілізацыйнага выбару.

Гэта было ўвасабленне грамадскага запыту на інакшыя каштоўнасці. Запыту часам цьмянага, але ў тым і сэнс каштоўнаснай альтэрнатывы — яна прапануе цэласны светапогляд і бачанне будучыні, праясняе цьмянасць.

Але за дзесяцігоддзі адбылася істотная змена.

Па-першае, улада стратэгічна вынішчала поле беларускіх нацыянальных каштоўнасцяў, пераследавала і маргіналізавала іх носьбітаў, выпустошвала іх змест.

Па-другое (пераважна ў выніку першага, але таксама і як наступства суб'ектыўных памылак і аблудаў), статусная палітычная апазіцыя, у тым ліку што дэкларуе нацыянальна-дэмакратычныя каштоўнасці, аказалася ў цяжкім арганізацыйным і асабовым крызісе.



Загучалі галасы: тэмаў беларускай мовы, культурнай тоеснасці, а таксама сапраўднай незалежнасці і заходняга геапалітычнага выбару людзі не хочуць і баяцца, бо ўсё гэта асацыюецца з палітычнай «апазіцыяй». Як (вымушана?) адказ на фальшывую дылему з'явілася стратэгія дэпалітызацыі беларускай ідэнтычнасці, а нават спробы ўкараніць ува ўладу людзей, якія б змякчалі жорсткую русіфікацыйную лінію.

Але інстытуцыянальная русіфікацыя працягваецца як і раней, нягледзячы на дэкарацыі і дэкларацыі. Беларусь застаецца ў падкантрольнай Расіі эканамічнай, палітычнай, моўнай, ментальна-культурнай, інфармацыйнай, вайсковай прасторы.

Аднак, нягледзячы на дзяржаўную лінію, розныя групы грамадства, што важна — новыя пакаленні ўспрымаюць каштоўнасці беларускай ідэнтычнасці, гістарычнай памяці, мовы — як чыннікаў незалежнасці.

І ўва ўладным дыскурсе з'явілася слова «незалежнасць» (яго ў гэтай улады ад пачатку не было — нагадваю тым, хто забыў, і кажу тым, хто замалады, каб памятаць). Падкрэслю — слова. Для цяперашняй улады падмена зместу ключавых паняццяў — важная частка самаабгрунтавання. «Выбары», «падзел уладаў», «свабода», «раўнапраўе» (у тым ліку моваў) і г. д. Дадаць да гэтага спісу ў двукоссях яшчэ адно слова — «незалежнасць» — пытанне тэхнічнае. І нават дазволіць сабе і сваім прапагандыстам вербальныя выпады супраць усходняга суседа — таксама тэхніка, тактыка.

Забраць у апанентаў сцяг, які сімвалізуе еднасць беларушчыны, незалежнасці і свабоды, — гэта робіцца зусім не для таго, каб яго ўзняць. Поле незалежніцкіх каштоўнасцяў добраахвотна аддаецца тым, хто іх рэальна не толькі не падзяляе, а нясе адказнасць за іх вынішчэнне.

У выніку ў альтэрнатыўным палітычным полі ўзнік ідэйна-каштоўнасны вакуум. І яго прадказальна запоўнілі іншыя пасылы — не гэтулькі антыбеларускія, колькі «абеларускія». Гэта значыць, Беларусі як незалежнага суб'екту і беларусаў як народу з моўна-культурна-гістарычнай ідэнтычнасцю ў тым дыскурсе няма. Прагрэс і дабрабыт — але для каго, для якога народу, хто суб'ект зменаў? Тэма беларускасці, незалежнасць як ключавая (а не проста бясспрэчная) каштоўнасць, цывілізацыйны выбар беларусаў проста адсутныя ў парадку дня тых, хто пэрсаніфікуе альтэрнатыву сёння.

Незадавальненне, абурэнне ўладай будуць нарастаць. Але Беларусь упершыню ў найноўшай гісторыі сутыкаецца з сітуацыяй, калі масавую энергію пратэсту могуць скарыстаць, каналізаваць, арганізацыйна аформіць групы, сілы і сцэнары, якія не маюць незалежнасці Беларусі і беларускай ідэнтычнасці як адназначна сфармуляваных прыярытэтных каштоўнасцяў.

Цяпер грамадская думка прывучаецца да таго, што быць прарасійскім, мець Расію за плячыма, — нармальна. У бліжэйшыя месяцы Беларусь можа сутыкнуцца з зусім новай сітуацыяй, калі ўлада, з аднаго боку, і тыя, хто пэрсаніфікуе грамадскі супраць яе пратэст, з другога, не будуць геапалітычнымі апанентамі. Ці зробяць нацыянальна-дэмакратычныя сілы і групы ўплыву высновы з сітуацыі, ці адкажуць на новы выклік?

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Піке ў бясконцасць

Сяргей САЛАЎЁЎ

**«Фінансавая прорва — самая глыбокая з усіх прорваў, у яе можна падаць усё жыццё», — казаў Астап Бендэр. Нешта падобнае адбываецца і з Беларуссю. Пакуль краіна назірае за чэргамі жадаючых падпісацца за альтэрнатыўных кандыдатаў у прэзідэнты, яе эканамічнае становішча працягвае каціцца з горкі.**




Калаж www.newzv.ru

Днямі прайшоў чарговы раунд перамоваў па газе. Гэтым разам паразмаўлялі міністры энергетыкі Расіі і Беларусі Аляксандр Новак і Віктар Каранкевіч. Размова прайшла ў рэжыме відэаканферэнцыі.

«У ходзе перамоваў міністры абмеркавалі актуальныя пытанні двухбаковага ўзаемадзеяння Расіі і Беларусі ў газавай сферы», — гаворыцца ў афіцыйным паведамленні. А на самай справе ў Сінявокай утварыўся доўг за газ у памеры 165,57 мільёна долараў — на думку Расіі. У нашай краіне, вядома ж, усё адмаўляюць з дзіўнай фармулёўкай: у нас «няма запазычанасці за імпартаваны расійскі прыродны газ, спрэчкі вядуцца адносна яго кошту з улікам каларыйнасці сыравіны».

Гэта вельмі падобна на заяву прадстаўнікоў «Беларуснафты» нашым аўтааматарам: «Кошт бензіну не расце, ён змяняецца».

І чарговым разам Беларусь паспрабавала заявіць, што рынкавыя цэны на газ складаюць 80 долараў за тысячу кубаметраў. Расія ж чарговым разам нагадала: у нас ёсць кантракт, у якім прапісана цана на газ у 127 долараў за тысячу «кубоў», а кантракты трэба выконваць.

Яшчэ адна цікавая навіна: у Беларусі не будзе аплатнай сістэмы Google Pay. Раней Google абяцаў, што сістэма запрацуе ў нашай краіне гэтай вясной. З-за эпідэміі каронавіруса тэрміны спачатку ссунуліся, а цяпер ад яе і зусім адмовіліся. У асноўным, канешне, таму, што супраць Google Pay выступілі некаторыя беларускія банкі, якія не хочуць канкураваць з Google у сферы бескантактавых плацяжоў. Акрамя таго, Google Pay мог даставіць дыскамфорт буйным вытворцам смартфонаў, — напрыклад, Samsung уклаўся ў Беларусі ў прасоўванне ўласнай сістэмы Samsung Pay. На гэты рынак таксама планавалі выйсці Huawei і Xiaomi.

Але, апроч праблем з партнёрамі, у Google, як піша Digital Report са спасылкай на крыніцы ў амерыканскай карпарацыі, «негатыўна ацэньваюць бягучыя іміджавыя рызыкі пры працы ў Беларусі. Наўпрост пра гэта ніхто ў карпарацыі не кажа, аднак крыніцы DR упэўненыя, што палітычныя і эпідэміялагічныя скандалы ў Беларусі могуць ударыць па яе іміджы. У карпарацыі асцерагаюцца, што запуск плацежнай сістэмы будзе расцэньвацца як прыцягненне істотных інвестыцый у эканоміку Беларусі».

Вось такім чынам нам адгукнулася затрыманне Ціханоўскага, мінскі каронавірусны парад і заявы Лукашэнкі, які абяцаў «нагадаць» пра расстрэл пратэстоўцаў у Андыжане.

Больш за тое, не толькі замежныя гульцы імкнуцца не мець справы з Сінявокай. Інвестыцыйная кампанія «Зубр Капітал», якая ў пачатку 2017 года набыла 40% долі найбуйнейшага гульца электроннай камерцыі Беларусі — 21vek.by, — аднавіла працэс продажу гэтай долі. Астатнія 60%, якія належаць заснавальнікам 21vek.by Сяргею Вайніловічу, Івану Плюгачову і Паўлу Матусевічу, таксама выстаўленыя на продаж.

Прапановы патэнцыйным пакупнікам былі разасланыя яшчэ ў канцы 2019 года. Але з-за эпідэміі каронавіруса пакупнікі не змаглі наведаць Беларусь. Да здзелкі праяўляюць цікавасць як мясцовыя, так і расійскія і еўрапейскія кампаніі. Чакаецца, што продаж адбудзецца, калі будуць зняты абмежаванні, звязаныя з распаўсюджваннем каронавіруса.

На момант здзелкі з «Зубр Капіталам» у 2017 годзе доля рынку 21vek.by складала 14%. Абарот за 2016 год — 50 мільёнаў долараў, сярэднегадавы тэмп прыросту выручкі ў доларах за 5 гадоў склаў 19%. «Зубр Капітал» планаваў выходзіць з праекта праз 5 гадоў пры гадавым абароце 150 мільёнаў долараў.

Па словах Сяргея Вайніловіча, перамовам аб продажы дапамагае добры фінансавы вынік кампаніі за 2019 год. «Мы скончылі мінулы год з выдатнымі вынікамі, апярэджваем запланаваны рост», — адзначыў ён. Паводле СМІ, цяпер абарот 21vek.by — каля 200 мільёнаў долараў на год.

Пытанне, навошта прадаваць паспяховую кампанію на фоне росту яе паказчыкаў, вядома, цікавае. У прынцыпе, гэта правільна — паспяховая кампанія і каштуе даражэй. Але чамусьці складваецца ўражанне, што не ў малой ступені гэта звязана і з «палітычнымі і эпідэміялагічнымі скандаламі ў Беларусі», па выразе Google. Бо неяк няма звестак пра новыя праекты заснавальнікаў кампаніі. Прынамсі, яшчэ ў сакавіку, даючы інтэрв'ю tut.by, Сяргей Вайніловіч нічога не распавядаў ні пра продаж кампаніі, ні пра новыя задумы.

Можна выказаць здагадку, што грошы з краіны сыдуць. Таму што інакш з прадпрымальнікаў паспрабуюць зняць габлюшку, як спрабуюць гэта зрабіць з шараговымі грамадзянамі. Міністэрства ЖКГ, так і не разабраўшыся з коштам сваіх паслуг, вырашыла зрабіць «фінт вушамі» і стварыць новае падраздзяленне — «Дзяржаўны жыллёвы нагляд». Нібыта гэты нагляд будзе «займацца праверкай выканання, выяўленнем і спыненнем парушэнняў патрабаванняў да выкарыстання і захаванасці жыллёвага фонду, зместу і рамонту агульнай маёмасці ў шматкватэрных дамах, прадастаўленню ЖКП, іх якасці. У сферу кампетэнцый органа прапанавана аднесці і захаванне правоў спажыўцоў ЖКП». А вось фінансаваць новы кантрольны орган будуць праз... адлічэнні «ад платы за тэхабслугоўванне жылога дома, ліфта, а таксама з адлічэнняў на капрамонт».

Гэта значыць, замест ліфта і капрамонту людзі атрымаюць войска чарговых «кантралёраў» і бюракратаў. У нас і так 35 органаў і ведамстваў, якія маюць права ажыццяўляць праверкі і нагляд, не лічачы тых, якія ажыццяўляюць ведамасны кантроль! Апроч гэтага, права на праверкі прадастаўлена і дзяржаўна-грамадскім арганізацыям кшталту Федэрацыі прафсаюзаў. Падавалася б, навошта яшчэ адзін кантрольны орган? Проста дадайце працы і паўнамоцтваў ужо існуючым!

Але не. Дзяржчыноўнікі ж таксама хочуць мякка спаць і смачна есці, асабліва ў такой некантраляванай сферы, як ЖКГ. І таму наша «дзяржава для народа» ўсё спрабуе залезці ў кішэню гэтага самага народа, і так ужо даволі небагатага.

Мабыць, «наверсе» вырашылі, што калі ўжо падаць у фінансавую прорву — то не ў адзіноце.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Сяргей Ціханоўскі



**Вядомы блогер і яго прыхільнікі, абвінавачаныя ў арганізацыі і падрыхтоўцы дзеянняў, што парушаюць грамадскі парадак, прызнаныя палітвязнямі.**

Праваабаронцы адзначылі, што пікет 29 траўня, на якім быў затрыманы блогер, адбываўся мірна, без парушэнняў грамадскага парадку, адпавядаў як патрабаванням нацыянальнага заканадаўства, так і стандартам мірных сходаў. Аналіз відэазапісаў і сведчанняў відавочцаў дазваляе зрабіць высновы пра адсутнасць падстаў для затрымання Ціханоўскага, пералічаных Крымінальна-працэсуальным кодэксам, «што сведчыць пра адвольнае і незаконнае затрыманне Ціханоўскага».

Праваабаронцы адзначаюць наяўнасць палітычнага матыву з боку ўладаў у пераследзе чальцоў ініцыятыўнай групы Святланы Ціханоўскай, «накіраваных на недобраахвотнае спыненне або змяненне іх публічнай дзейнасці, а таксама стварэнне перашкодаў для вылучэння Ціханоўскай кандыдаткай у прэзідэнты».

Пазбаўленне волі ў сувязі з негвалтоўным ажыццяўленнем свабодаў, гарантаваных міжнароднымі нормамі права ў галіне правоў чалавека, з'яўляецца падставай для прызнання асобы палітычным зняволеным. Таму крымінальны пераслед Сяргея Ціханоўскага, Дзмітрыя Фурманава, Вяргілія Ушака, Аляксандра Арановіча, Васіля Баброўскага, Арцёма Сакава і Уладзіміра Навуміка з'яўляецца палітычна матываваным, а самі яны — палітычныя зняволеныя.

Праваабаронцы запатрабавалі іх неадкладнага вызвалення, спынення крымінальнага пераследу, а таксама аб'ектыўнага незалежнага расследавання дзеянняў міліцыянтаў і ўдзельнікаў пікету 29 траўня.

## Петрас Аўштравічус



**Дакладчык Еўрапарламента па Беларусі заклікаў ЕС ужо сёння прадугледзець санкцыі «за выбары» супраць беларускіх чыноўнікаў.**

Аўштравічус звярнуўся да віцэ-старшыні Еўрапейскай камісіі, вярхоўнага прадстаўніка Еўрасаюза па замежных справах і палітыцы бяспекі Жазэпа Барэля з просьбай адрэагаваць на рэпрэсіі, якія адбываюцца ў Беларусі ў дачыненні да дэманстрантаў і прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці.

Аўштравічус адзначае, што ён «непрыемна шакаваны» паводзінамі беларускіх уладаў, якія ўзмацнілі рэпрэсіі ў дачыненні да грамадзянскіх актывістаў напярэдадні выбараў 9 жніўня. «Рэжым відавочна не мае намеру ствараць роўныя ўмовы для гульні або браць пад увагу рэкамендацыі Венецыянскай камісіі і БДІПЧ АБСЕ», — піша еўрадэпутат.

Аўштравічус перакананы, што ЕС павінен пачаць перагляд палітыкі ў дачыненні да Беларусі, у тым ліку «прадугледзець санкцыі ў дачыненні да службовых асоб і іншых вінаватых у парушэннях правоў чалавека і асноўных свабодаў, калі эскалацыя гвалту не аслабне, а прэзідэнцкія выбары будуць праведзеныя ў катастрафічных абставінах».

## Уладзімір Басалыга



**Вядомы беларускі мастак-графік, які шмат гадоў узначальваў Беларускі саюз мастакоў, памёр ва ўзросце 80 гадоў.**

Уладзімір Самойлавіч нарадзіўся ў Слуцку 1 красавіка 1940 года. Працаваў галоўным мастаком Упраўлення мастацкай прамысловасці Мінпрама БССР, галоўным мастаком мастацкага фонду БССР. У пачатку 1980-х яго звольнілі пасля даносу ў КДБ аб нацыяналізме.

У 1989 годзе стаў выкладчыкам у Беларускай акадэміі мастацтваў, да канца 1990-х быў дэканам мастацкага факультэта. У 1999 годзе стаў намеснікам старшыні, а з 2001 па 2007 год — старшынёй Беларускага саюза мастакоў, удзельнік суполкі «Пагоня».

Працаваў у асноўным у жанрах кніжнай і станковай графікі, аформіў многія кнігі беларускіх паэтаў і пісьменнікаў: «Мая Іліяда» Уладзіміра Караткевіча, «Невадам з Нёмана» Ларысы Геніюш, 10 гадоў працаваў над графічнай серыяй «Помнікі дойлідства Беларусі». Лаўрэат мноства конкурсаў і прэмій, атрымаў медаль імя Францыска Скарыны ў 1991 годзе.

Выказваем шчырыя спачуванні родным і сябрам Уладзіміра Самойлавіча.

# БелАЭС і эканамічныя праграмы кандыдатаў у кандыдаты

Аляксандр КАВАЛЁЎ

**Паважанае спадарства, адразу прабачце за гучны загаловак. Насамрэч, на стадыі збору подпісаў агітаваць нельга, а выразнае агучванне пажаданых прынцыпаў узаемадзеяння дзяржавы з эканамічнай сістэмай можа быць успрынятае ЦВК як агітацыя.**

Некаторыя кандыдаты робяць асцярожныя ўкіды (прыкладам, пра краіну інфармацыйных тэхналогій, а не парсючкоў), і толькі адзін з усіх агітуе не словамі, а рэальнымі, хай сабе і сумнеўнымі, справамі. З тыдня на тыдзень, прынамсі калі верыць Уладзіміру Сямашку і БЕЛТА, адбудзецца фізічны пуск першага блоку Астравецкай атамнай станцыі. І наша ўлада паабяцала не даць сябе ганіць за айчынную «ядзерную праграму».

Я цешуся з існавання Беларускай АЭС. Толькі зразумейце карэктна: наконт тэхнічнай часткі, як большасць людзей у Беларусі і не толькі, я якраз непакоюся. Цешуся з БелАЭС як з эканамічнага прыкладу. Калі б БелАЭС не было — яе трэба было прыдумаць дзеля лекцый па эканоміцы! Далейшыя развažанні я падзялю на тры часткі.



### Частка першая

Спачатку пра простае. Як гаворыцца, простыя рэчы — простыя лічбы. Каб любы інвестыцыйны праект быў эфектыўным, неабходна, каб чысты даход (гэта значыць, прыбытак і амартызацыя) за тэрмін ягонай рэалізацыі быў вышэйшым за выдаткі. З выдаткамі ёсць нейкая (не)ўпэўненасць — ці то 7, ці то 10, ці то нават 12 мільярдаў долараў. Апошнім часам усё больш кажуць пра нешта вакол 7 мільярдаў, гэтую лічбу і возьмем.

Плануецца, што выпрацоўвацца на БелАЭС будзе 9–9,5 мільярдаў кілават-гадзін электраэнергіі на год. Цяперашні кошт для насельніцтва (базавы) — 14 капеек, для прадпрыемстваў па-рознаму — ад 15 да ажно 33 капеек. Возьмем нешта сярэдняе — 25 капеек за кілават-гадзіну — дарэчы, гэта кошт для чыгункі і арганізацый дзяржбюджэту. Атрымаем брута — гадавы даход каля 1 мільярда долараў. Нават пры звышэфектыўнасці (давайце возьмем 30%) выдаткі вернуцца больш, чым праз 20 гадоў! Хто-небудзь з вас рабіў бы такі праект?

Эканоміка — суровая навука, і ў ёй прынята лічыць яшчэ і працэнты на капітал. Прыкладам, Міністэрства эканомікі рэкамендуе лічыць адлічэнне сама мала ў памеры стаўкі рэфінансавання Нацбанку. Але нават калі возьмем не 8 %, а 3–3,5 %, якія адпавядаюць расійскаму крэдыту, тэрмін акупальнасці, як той блакітны вагончык, знікае недзе за гарызонтам (цьфу-ты, яшчэ і «Гарызонт» згадаў).

**«Пасля запуску станцыі цэны на энергію ў Беларусі ці то вырастуць, ці то ўтрымаем», — паведаміў прадстаўнік Мінэнерга. Але навошта рабіць нейкі праект, калі ў выніку вырастуць цэны — гэта ўвогуле не пра эканоміку!**

### Частка другая

Цяпер трошкі складаней. Як той кажа, навучы папугая крычаць «попыт і прапанова» — вось вам і яшчэ адзін эканаміст. Здаецца, перабольшванне, але, калі не разумець гэтых простых рэчаў, эканамістам дакладна не стаць! Што будзе адбывацца з цэнамі, калі вырасце прапанова электраэнергіі? Любы першакурснік адкажа — яны пойдуць ўніз. А што ў нашым выпадку? Ці будзе гэта пашырэнне попыту і ці стане яно адчувальным?

Канешне, пашырэнне попыту, стварэнне рынкаў для продажу за мяжу пытанне б вырашыла, але гэтым напрамкам трэба было займацца ад пачатку — запрасіць экспертаў з краін-суседак інспектаваць бяспеку, быць транспарэнтнымі і г.д. Сёння маем, што маем — амаль усеагульную адмову ад беларускай энергіі. І Венгрыя тут не партнёр — у яе такія самыя мэты: пошук попыту на сваю энергію. На граблі базавых эканамічных ведаў нашы праектанты ўжо наступалі — прыкладам, калі нарошчвалі магутнасці па вытворчасці цэменту. Мала...

Выйсце, канешне, нашы праектанты знойдуць. «Пасля запуску станцыі цэны на энергію ў Беларусі ці то вырастуць, ці то ўтрымаем», — паведаміў прадстаўнік Мінэнерга. Але навошта рабіць нейкі праект, калі ў выніку вырастуць цэны — гэта ўвогуле не пра эканоміку! Што тычыцца «ўтрымаем», дык тое сумнеўна. Нават калі Белэнерга здолее прадаць у межах краіны энергію з АЭС, скароціцца спажыванне энергіі ад іншых вытворцаў — і, згодна з эфектам маштабу, іх выдаткі на адзінку вытворчасці вырастуць. А рост цэнаў электраэнергіі для айчынных вытворцаў падвысіць ужо іх выдаткі. Эканоміка — як біялагічны арганізм — усё ўзаемазалежнае.

### Частка трэцяя

Нарэшце, пра самае складанае. Сэнс усёй чалавечай дзейнасці падпарадкоўваецца закону эканоміі часу. Мы імкнёмся зрабіць неабходнае хутчэй — і пераразмеркаваць час ад працоўнага да вольнага. У галіне эканомікі закон праяўляецца ў зніжэнні выдаткаў і коштаў.

Калі ты нешта атрымоўваеш ад удзельнікаў эканамічнай сістэмы — ты нешта павінен аддаць. Што мы маем у выпадку БелАЭС? Увесь тэрмін будаўніцтва інжынеры, працаўнікі атрымоўвалі заробак, не прапаноўваючы аніякага свайго прадукту ў адказ! Зразумела, любы інвестыцыйны праект адцягвае рэсурсы з магчымага іх выкарыстання ў альтэрнатыўных напрамках. Калі гэта робіцца за кошт ашчаджэнняў прыватнага сектару — гэта натуральна, то-бок людзі адмаўляюцца ад часткі сённяшняга спажывання дзеля прыросту спажывання ў будучыні.

Але калі гэта робіцца за нейкія «дадатковыя» грошы — ці то крэдыты, ці то дзяржвыдаткі — структура вытворчасці і структура капіталу аказваюцца ў разбалансаваным стане.

З нагоды напісанага вышэй не ведаю, як каго, а мяне запуск атамнай станцыі ў якасці пацверджання моцы беларускай дзяржавы і «практычнай» часткі эканамічнай праграмы вядомага кандыдата ані разу не ўражвае. Болей за тое, адным і ці не найбольш важным у праграмах кандыдатаў мне бачыцца іх стаўленне да лёсу БелАЭС — і нават не з пункту гледжання бяспекі, а як квінтэсенцыя адносін да пытання пра «дзяржаўныя інвестыцыйныя (мадэрнізацыйныя, інавацыйныя... — неабходнае падкрэсліць) праекты».

Дачакаемся рэгістрацыі і спытаем? А тым часам БелАЭС ужо будзе (ці яшчэ не будзе) спустошаць нашы і без таго небагатыя кішэні.

## Усё, што трэба ведаць

**Вылучым чатыры паняцці, якія з'яўляюцца ключавымі для разумення энергетычнай сістэмы Беларусі.**




Устаноўленая магутнасць энергасістэмы — намінальная актыўная магутнасць генератараў электрычных станцый. То-бок, гэта той аб'ём магутнасці, які гіпатэтычна здольная выдаць уся энергасістэма краіны. Гэты параметр толькі ўскосна характарызуе энергетычную сістэму, паколькі ў рэальнасці ўся магутнасць генератараў электрычных станцый не выкарыстоўваецца. Аднак парадокс палягае ў тым, што менавіта гэты паказчык бярэцца за адпраўны пункт пры прыняцці рашэнняў пра ўвод новых магутнасцяў.

Максімальная нагрузка ў энергасістэме — фактычная пікавая магутнасць у энергасістэме. Да цяперашняга часу максімальная нагрузка ў беларускай энергасістэме не перавышала 6554 МВт. У рэзерве ў нас знаходзяцца больш за 2300 МВт магутнасцяў, што складае больш за 35% ад максімальнай патрэбы.

Рэзерв магутнасцяў мае ключавое значэнне для энергасістэмы. У выпадку аварыйнага спынення энергаблокаў патрэбна за кароткі час аднавіць планавую магутнасць энергасістэмы. Для гэтай мэты прадугледжана ўтрыманне гарачага і халоднага рэзерваў, велічыня кожнага з якіх, у адпаведнасці з існуючымі нарматывамі, роўная магутнасці самага буйнога блока ў энергасістэме.

З уводам у эксплуатацыю першага блока Беларускай АЭС у 2020 годзе пасля дасягнення сумарнай магутнасці АЭС 2388 МВт, памер халоднага і гарачага рэзерву павінен быць павялічаны да 3300 МВт за кошт падтрымання ў працаздольным стане і выкарыстання часткова адпрацаваўшых свой тэрмін блокаў на Лукомльскай ГРЭС, а таксама іншых магутнасцяў на дзейсных электрастанцыях.

Спажыванне электраэнергіі — сумарны назапашаны аб'ём спажытай электраэнергіі за год. Калі нагрузка ў энергасістэме пастаянна змяняецца ў залежнасці ад часу сутак, сезоннасці і многіх іншых фактараў, то сумарны гадавы аб'ём спажывання электраэнергіі звязаны з тэмпамі развіцця эканомікі. Спажыванне электраэнергіі — вельмі важны паказчык, паколькі менавіта ад яго залежыць акупнасць інвестыцый, звязаных з увядзеннем новых энергетычных магутнасцяў.

Максімальны аб'ём спажывання ў Беларусі быў дасягнуты ў 2012 годзе і склаў 38,4 мільярда кВт-г. Крызіс беларускай эканомікі прывёў да скарачэння сукупнага спажывання электраэнергіі да 36,8 мільярда кВт-г. У 2020 годзе, відавочна, будзе яшчэ менш.

Спажыванне энерганосьбітаў — гадавы расход паліва, неабходнага для функцыянавання энергетычнай сістэмы. Менавіта праблема паліва з'явілася краевугольным каменем распрацоўкі канцэпцыі энергетычнай бяспекі Беларусі. На сённяшні дзень прыкладна 96% паліва, якое выкарыстоўваецца ў беларускай энергетыцы, — гэта прыродны газ, што пастаўляецца з Расіі. Фактычна гэта азначае поўную залежнасць беларускай энергасістэмы ад палітыкі Масквы.

Акрамя гэтага да зменаў у энергетычнай сістэме краіны падштурхоўвала неабходнасць мадэрнізацыі старых і нізкаэфектыўных магутнасцяў. Мадэрнізацыя аб'ектыўна наспела. Аднак погляды на тое, як яе праводзіць, дыяметральна разышліся.

# «Зверху зрабілі ўсё, каб сапраўдных пошукаў не было»

## Былы міліцыянт расказаў, як шукалі Захаранку, Ганчара і Красоўскага

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ,
Радыё Свабода



Калаж Радыё Свабода

**20 гадоў таму Леанід Грышанкоў кіраваў вышукам зніклых палітыкаў. Распыталі, як гэта было.**

«Хаджу 5 гадоў па кабінетах, патрабую, каб справы зніклых расследавалі як мае быць, сам прапаную мяне дапытаць, а яны то пагражаюць, то кідаюць у кутузку». Гэтак пачынае сваё апавяданне Леанід Грышанкоў, адстаўны маёр міліцыі.

У нядзелю, 31 траўня, Леанід Мікалаевіч прыйшоў да Камароўскага рынку, дзе збіралі подпісы за Святлану Ціханоўскую, і не стрымаўся — выказаўся на мікрафон. Сярод іншага сказаў, што на пачатку 2000-х гадоў па службе займаўся пошукамі зніклых апазіцыйных палітыкаў Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага. Са слоў Леаніда Грышанкова, сапраўдных пошукаў наладзіць так і не ўдалося.

Ва ўспамінах Леанід вяртаецца ў травень 1999 года, калі ён служыў начальнікам аддзелу крымінальнага вышуку Партызанскай раённай управы міліцыі. Якраз стала вядома пра знікненне былога міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі. Пра гэта гаварылі ўсе калегі, а самыя блізкія сябры не выключалі версіі, што экс-міністра не проста выкралі, а ўжо і забілі як палітычнага апанента ўлады.

Пра лёс Захаранкі Леанід Грышанкоў перажываў асабліва, бо ведаў таго асабіста яшчэ па службе ў гомельскай міліцыі, дзе і сам пачынаў служыць.

«Пра выкраданні людзей мы ўжо ведалі, але тое тычылася крымінальнікаў, а тут апазіцыянер, палітык — не хацелася верыць, што і яго… І паступова сумненняў станавілася ўсё менш. Ды якія сумненні? У 1996 годзе падчас рэферэндуму нас усіх, у тым ліку супрацоўнікаў крымінальнага вышуку, задзейнічалі на ачапленні Дома ўраду, баяліся, што людзі пачнуць абурацца. Трымалі, як бараноў, нічога не тлумачылі. Мне ж асабіста ўжо было зразумела, куды мы ідзём», — згадвае Леанід Грышанкоў.

Пошукамі зніклых палітыкаў адразу давялося займацца Грышанкову і ягоным падначаленым. Але вельмі хутка яны зразумелі, што справа не мае перспектываў.

«Не блытайце, гэта не крымінальная справа, а вышуковая, у яе свае асаблівасці, — тлумачыць былы міліцыянт. — Наш абавязак — рабіць запыты, апытваць імаверных сведак, правяраць людзей, збіраць і аналізаваць інфармацыю з розных крыніц, у тым ліку аператыўных. Працуем, працуем — і што бачым? Знікненні пэўныя, ёсць нават сведкі злачынства, ёсць чырвоная фарба ад аўтамабіля на дрэве каля лазні, дзе выкралі Ганчара і Красоўскага, ёсць іншыя сляды. Але куды потым падзеліся выкрадальнікі і іх ахвяры? Ніякіх зачэпак няма. У тыя гады на кожным выездзе з Мінску стаялі пасты ДАІ, у горадзе поўна дзяжурных аўтамабіляў. Але збіраем рапарты — ніхто нічога не бачыў».

«Памятаю, як да мяне прыходзіла жонка Віктара Ганчара, — згадвае Грышанкоў. — Пыталася, вельмі прасіла зрабіць немагчымае. А што было ёй адказаць? Што робім усё, але рукі звязаныя?»

Грышанкоў узгадвае чырвоны BMW тагачаснага камандзіра СОБРа Дзмітрыя Паўлічэнкі, пра існаванне якога тады нават не ведаў. Міліцыянты не сумняваліся ў датычнасці гэтага аўтамабіля да выкраданняў, спрабавалі адсачыць яго перасоўванні па горадзе, як і перасоўванні джыпа «Гранд Чэрокі» Анатоля Красоўскага. Нічога вызначыць не ўдалося.

«Дзясяткі рапартаў — і ўсе пустыя. Выходзім на нейкіх людзей, умоўна кажучы, Пятровых-Сідаравых — але правяраем іх па базе, а такіх людзей не існуе! Карацей, мы даволі хутка зрабілі выснову, што хтосьці вельмі прафесійна гэта ўсё арганізаваў і падчысціў, таму і няма за што ўчапіцца. Пайшоў да намесніка начальніка крымінальнага вышуку Мінску Сяргея Шарыпы, паставіў пытанне, што трэба як мага хутчэй заводзіць крымінальную справу, бо нашымі сіламі не абысціся. І што? Адмовілі. «Шукай як шукаеш, а ў іншае не сунься. Калі трэба будзе, без цябе разбяруцца», — згадвае Леанід Грышанкоў нарады з начальствам.

Паводле былога міліцыянта, восенню 1999 года да пошукавай справы Ганчара і Красоўскага далучылі і пошукавую справу Захаранкі, але вынік быў той самы — «мноства рапартаў і нічога пэўнага».

### Хто распаўсюджваў чуткі пра «Захаранку ў Германіі»?

Паводле Леаніда Грышанкова, прыкладна ў канцы 1999 — пачатку 2000 года адносна Юрыя Захаранкі пачалі актыўна цыркуляваць чуткі, што яго нібыта бачылі ў Германіі. Прычым пра гэта ўпэўнена казалі і некаторыя міліцыянты. Грышанкоў з калегамі, хоць не бачылі падстаў гэтаму верыць, усё ж спрабавалі разабрацца.

«Мы нават зрабілі пэўныя дзеянні. І пераканаліся, што гэта хлусня, што не было ніякіх рэальных падстаў нават меркаваць, што Захаранка пасля знікнення ў траўні 1999 года ў Мінску мог аказацца ў Германіі. Стала зразумела, што гэты ўкід таксама быў часткай спецаперацыі супраць Юрыя Захаранкі», — лічыць Леанід Грышанкоў.

### «Нас нават не інфармавалі пра рапарты Алкаева і Лапаціка»

Улетку 2000-га знік аператар ОРТ Зміцер Завадскі, і паступова, кажа Леанід Грышанкоў, справы набылі новы імпульс. Але пра некаторыя рухі следства Леанід даведаўся зусім не ад начальства, якое працягвала рабіць выгляд, што курыруе справы зніклых.

«Мы займаліся сваім вышукам, збіралі паперкі, але нас па-ранейшаму не інфармавалі, што новага. Хоць падзеі былі. Справу вяла пракуратура, казалі пра следчую Святлану Байкову, вельмі ўпартую, да нас даходзіла, што генпракурор Алег Бажэлка і старшыня КДБ Уладзімір Мацкевіч настойваюць на расследаванні.

**«Трэба, каб у Беларусі былі вольныя выбары, незалежныя ад улады суды і каб людзі маглі вольна выказваць свае думкі. А такім людзям, як Юрый Захаранка, павінны стаяць помнікі»**

Пазней стала вядома пра рапарты палкоўніка Алкаева і генерала Лапаціка, пайшлі чуткі пра "расстрэльны пісталет", пра Дзмітрыя Паўлічэнку і ўдзел у выдачы гэтага пісталета міністра Сівакова. Дайшло нават да арышту Паўлічэнкі! Падумаў, цяпер давядуць да канца. Але, як памятаеце, быў загад Лукашэнкі вызваліць Паўлічэнку з ізалятара КДБ, потым з пасад знялі Бажэлку з Мацкевічам, і справу канчаткова пахавалі», — кажа Леанід Грышанкоў.

Паводле былога міліцыянта, у выніку для сябе ён канчаткова вырашыў, што гэта справа спецслужбаў, і яе расследаванне адмыслова «топяць» на самым версе. Тады ён проста напісаў рапарт аб пераводзе на іншае месца працы — у Мінскую абласную міліцыю.

З міліцыі маёр Грышанкоў звольніўся ў 2002 годзе па выслузе гадоў з пасады старшага оперупаўнаважанага па асабліва важных справах. Але пра лёс зніклых палітыкаў, асабліва земляка Юрыя Захаранкі, не забыўся.

«Мне дагэтуль не дае спакою. Як можна? Выкрасці былога міністра ўнутраных спраў — і ўсе забыліся, нібыта нічога не было? Куды толькі я ні звяртаўся са скаргамі і лістамі — у пракуратуру, Следчы камітэт, але ж не рэагуюць. Больш за тое — пачалі пагражаць», — кажа былы міліцыянт.

### «Будзеш працягваць, пасадзім»

Паводле Леаніда Грышанкова, першы раз пагрозы на свой адрас ён пачуў ад адказнага супрацоўніка праваахоўнай структуры ў 2018 годзе. Летась пагрозы прагучалі ад супрацоўніка спецслужбы, які адмыслова наведаў ягонага сына. «Перадайце бацьку, калі будзе гэтак далей, пасадзім», — цытуе сына Леанід Грышанкоў.

Леанід Грышанкоў вырашыў звярнуцца да Аляксандра Лукашэнкі. Шмат разоў, паводле былога міліцыянта, ён дасылаў скаргі і лісты з напамінам пра справы зніклых на імя кіраўніка дзяржавы, але безвынікова, і ў выніку вырашыў нагадаць пра сябе іншым чынам — паехаць да рэзідэнцыі Лукашэнкі ў Астрашыцкім Гарадку. Апошняя такая паездка скончылася для яго затрыманнем.

Паводле Грышанкова, ён паводзіў сябе ветліва і прыстойна, усяго толькі папрасіў ахоўнікаў перадаць кіраўніку дзяржавы, што народ Беларусі памятае пра Юрыя Захаранку ды іншых зніклых і просіць давесці расследаванне спраў да канца.

«Прыехалі ажно тры машыны ДАІ, мяне забралі і павезлі ў Бараўлянскую міліцыю. А там сказалі, што на рухавіку майго аўтамабіля нібыта перабітыя нумары, ім трэба агледзець рухавік. Я адмовіўся адкрываць капот. У выніку тры дні прасядзеў у іхнай кутузцы, адкуль павезлі ў Мінскі раённы суд і далі тры дні арышту за непадпарадкаванне».

Леанід Грышанкоў дагэтуль абураны — і цяпер не абмінае месцы, дзе збіраюць подпісы за прэтэндэнтаў у кандыдаты ў прэзідэнты.

«Трэба, каб у Беларусі былі вольныя выбары, незалежныя ад улады суды і каб людзі маглі вольна выказваць свае думкі. А такім людзям, як Юрый Захаранка, павінны стаяць помнікі, і я перакананы, што калісьці гэтак і будзе», — кажа былы міліцыянт Леанід Грышанкоў.

Былы следчы пракуратуры, праваабаронца **Алег Волчак** з 1999 года вядзе грамадскае расследаванне спраў аб выкраданні Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і Змітра Завадскага.

«Памятаю добра, як нібыта шукалі Юрыя Захаранку. Як доўга адмаўляліся завесці крымінальную справу, як адмаўляліся даваць абвесткі па тэлевізары, і нават не друкавалі ягоных партрэтаў — што знік чалавек. Калі зніклі Ганчар з Красоўскім, усё паўтарылася. Здаецца, крымінальную справу завялі хутчэй, але выніку ўсё роўна не было. Можа, чалавек дваццаць гэтым займаліся, але — нуль выніку. І, канечне, зразумела чаму. Бо, як па мне, дык праўда ўладзе была не проста не патрэбная, а небяспечная», — кажа Алег Волчак.

19 сакавіка Алег Волчак як прадстаўнік сям'і Юрыя Захаранкі атрымаў адказ са Следчага камітэта за подпісам начальніка аддзела СК Вараўкі пра чарговае прыпыненне папярэдняга расследавання справы Юрыя Захаранкі.

«Згодна з часткай 2 артыкула 247 КПК, органамі крымінальнага пераследу ў далейшым як непасрэдна, так і праз органы дазнання будуць рабіцца захады дзеля вызначэння вінаватай асобы. У выпадку вызначэння асобы следства будзе неадкладна аднаўлена, пра што вас праінфармуюць дадаткова», — напісана ў лісце са Следчага камітэта. Раней гэтак жа былі прыпыненыя справы Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і Змітра Завадскага.

# «Дыскусія» як зброя

## Расійскія «дыскусійныя клубы» — праваднікі «русского мира»

Дзяніс ІВАШЫН

**У межах расследавання я імкнуся паказаць, якім чынам Расія выкарыстоўвае прадстаўнікоў журналісцкага асяроддзя, сеціва так званых дыскусійных клубаў «Импрессум», «Формат-А3», «Сковорода» для вядзення прапаганды, здзяйснення інфармацыйна-псіхалагічных аперацый і аперацый уплыву ў суседніх з ёю краінах. Створаная і выкшталцаваная сістэма расійскіх медыяструктураў, падпарадкаваных адзінай задуме, мэтам і задачам, сведчыць пра вядзенне Расійскай Федэрацыяй паўнавартаснай інфармацыйнай вайны супраць Украіны, краінаў Балтыі, Малдовы і Беларусі — на сёння ключавога аб'екту ўздзеяння РФ.**



**Станіслаў Гаварухін у якасці спікера першай дыскусійнай сустрэчы ва ўкраінскім Сімферопалі, люты 2010 года. Фота format-a3.ru**

У другой частцы расследавання раскрываецца ўдзел сеціва расійскіх медыяструктур, асноўным партнёрам якіх ёсць чарнасоценны «Изборский клуб», у аперацыях уплыву Расіі ва Украіне, што сталі своеасаблівым пралогам да пачатку акупацыі і анексіі Крыма, а затым баявых дзеянняў на Данбасе. Таксама ў гэтым матэрыяле — звесткі пра падрыўную дзейнасць гэтых арганізацый у Латвіі і Літве. Гэтая частка расследавання цалкам прысвечаная суседнім з Беларуссю краінам, бо яна — неабходная базавая інфармацыя перад пачаткам аналізу дзейнасці інструментаў рэалізацыі расійскай стратэгіі «soft power» у Беларусі.

### Аперацыі ўплыву ў Крыме да акупацыі

За некалькі дзён да правядзення другога туру прэзідэнцкіх выбараў на Украіне, 2 лютага 2010 года, медыяклуб «Фармат-А3» на чале з Галінай Сапожнікавай афіцыйна адкрыў крымскі напрамак сваёй дзейнасці. На першае мерапрыемства ў Сімферопалі былі запрошаны кінарэжысёр і дэпутат Дзяржудмы Станіслаў Гаварухін, зацяты прадстаўнік еўразійства і неаімперскай палітыкі Расіі. Праз два гады, у 2012 годзе, ён ачоліў выбарчы штаб Уладзіміра Пуціна, які ў штатным рэжыме вяртаў сабе прэзідэнцкі фатэль.

Імпрэза адбывалася ў канферэнц-залі гатэлю з красамоўнай назвай «Москва», які знаходзіўся ў дзяржаўнай уласнасці Сімферопальскай гарадской рады. Лейтматывам першай дыскусіі была ўкраінская, у тым ліку крымская тэма. Падчас мерапрыемства Гаварухін шчыра абураўся, што Крым знаходзіўся ў складзе Украіны, а імкненне ўкраінскай дзяржавы ўвайсці ў NATO назваў «хваробай карлікавых краінаў». Пры гэтым краінам Балтыі ён правакатыўна надаў азначэнне «васалаў».

Пасля гэтага мерапрыемства традыцыяй клуба стала правядзенне штомесячных сустрэчаў у Малдове і Крыме, агулам за 2010 год «Фармат-А3» правёў 23 імпрэзы. Сацыёкультурнае і грамадска-палітычнае ўздзеянне расійскай імперыякратыі на Крым значна павялічвалася. Пры гэтым дзейнасць украінскага сектару бяспекі на гэтым этапе заставалася збольшага пасіўнай і абмяжоўвалася маніторынгавымі захадамі.

Прадстаўніком «Фармат-А3» у Крыме з'яўляецца Наталля Назарук — журналістка крымскага аддзялення аднаго з найбуйнейшых расійскіх дзяржаўных прапагандысцкіх холдынгаў «Россия сегодня».



**Наталля Назарук з «саюзным інтэгратарам» і шэф-рэдактарам прапагандысцкага праекту «Сонар-2050» Сямёнам Уралавым — спікерам аднаго з мерапрыемстваў «Фармат-А3» ва акупаваным Сімферопалі. Фота format-a3.ru**

Назарук таксама ўваходзіць у склад рэдакцыі севастопальскага выдання ForPost, якое належыць адной з ключавых постацяў так званай «Русской Весны» — «народнаму мэру» Аляксею Чаламу. Паводле Цэнтра «Міратворац», Назарук з'яўляецца памагатай расійскіх акупантаў, непасрэдна ўдзельнічала ў прапагандысцкіх мерапрыемствах РФ супраць Украіны, а таксама ў спробах легалізацыі акупацыі Крыма. За сваю дзейнасць яна была нават ўзнагароджаная Федэральнай службай судовых прыставаў РФ.

Ужо ў час расійскай акупацыі медыяклуб «Фармат-А3» і ТРК «Крым» рэалізоўвалі супольны праект «Крымский формат», у межах якога праводзіліся круглыя сталы з запрошанымі клубам выступоўцамі. Адной з ключавых задач гэтага праекту было правядзенне інфармацыйных аперацый па спробах легалізацыі анексіі Крыма.

Агулам з 2010 года і да пачатку адкрытай фазы расійскай спецаперацыі па захопе Крыма ў лютым 2014 года «Фармат-А3» правёў на ўкраінскай паўвыспе амаль 50(!) мерапрыемстваў. У Сімферопаль у якасці спікераў былі запрошаныя: прапагандыст Дзмітрый Кісялёў, вайсковы журналіст Аляксандр Сладкоў, які неўзабаве пачаў ствараць матэрыялы ваеннай прапаганды на акупаванай тэрыторыі Данбаса. На запрашэнне клуба 31 ліпеня 2013 года Крым наведаў галоўны рэдактар «Комсомольской правды» Уладзімір Сунгоркін. Праз дзевяць месяцаў, 22 красавіка 2014 года, указам Пуціна №269 ён быў узнагароджаны ордэнам «За заслуги перед Отечеством» чацвёртай ступені за забеспячэнне інфармацыйнай падтрымкі спецаперацыі захопу Крыма. Нагадаем, што менавіта «КП» з'яўляецца адным з заснавальнікаў медыяклуба «Фармат-А3».

Свае ўзнагароды за крымскую кампанію атрымалі і іншыя спікеры клуба «Фармат-А3»: Андрэй Кандрашоў, аўтар фільма «Крым. Путь на Родину», і тэлежурналіст Аркадзь Мамантаў (абодва — тэлеканал «Россия-1»). Агулам больш за сто супрацоўнікаў кампаніі ВГТРК, журналісты якой таксама з'яўляюцца сузаснавальнікамі клуба «Фармат-А3», атрымалі ўзнагароды за акупацыю Крыма.

Варта зазначыць, што ў аперацыях расійскага ўплыву ў Крыме, у тым ліку ў кантэксце «дыскусійных мерапрыемстваў» медыяклуба «Фармат-А3», што папярэднічалі правядзенню там заключнай фазы вайсковай аперацыі, асобнай фракцыяй удзельнічалі сталыя чальцы «Изборского клуба»: Аляксандр Праханаў, Міхаіл Хазін, Джульета Кьеза, Юры Палякоў, Максім Шаўчэнка, Міхаіл Лявонцьеў, Мікалай Старыкаў і іншыя.

У 2018 годзе дзейнасць медыяклуба «Фармат-А3» пашырылася на акупаваны Севастопаль. Прадстаўніком арганізацыі ў гэтым горадзе стаў публіцыст і пісьменнік Платон Бяседзін (творчы псеўданім, сапраўднае імя — Максім Бяседзін).

Яго можна лічыць своеасаблівай візітоўкай усяго медыяклуба. Бяседзін актыўна падтрымаў акупацыю Крыма Расіяй. Паводле інфармацыі Цэнтра «Міратворац», ён прымаў удзел у дзеяннях, скіраваных на гвалтоўнае змяненне або скіданне канстытуцыйнага ладу або на захоп дзяржаўнай улады, удзельнічаў у замаху на тэрытарыяльную цэласнасць і недатыкальнасць Украіны.

Узровень прапагандысцкага майстэрства Бяседзіна цалкам адлюстраваны ў яго кнізе «Дневник русского украинца. Евромайдан, крымская весна, донбасская бойня», якую Дзяржаўны камітэт тэлебачання і радыёвяшчання Украіны ўключыў у адмысловы пералік кніжных выданняў, змест якіх скіраваны на ліквідацыю ўкраінскай незалежнасці, прапаганду гвалту, распальванне міжэтнічнай, расавай, рэлігійнай варожасці і нават здзяйсненне тэрарыстычных актаў. Натуральна, гэты прапагандысцкі твор забаронены для ўвозу і распаўсюду на тэрыторыі Украіны.

Цікава, што праз пэўны час пасля публікацыі гэтага прадукту прапаганды Бяседзін шчыра расчараваўся ў дзеяннях расійскай акупацыйнай адміністрацыі. У сваёй калонцы ў выданні «Сноб» ён адкрыта заявіў, што яго родны Севастопаль за час знаходжання пад юрысдыкцыяй Расіі ператварыўся ў цвінтар і балота.

У лютым 2019 года «Фармат-А3» правёў у Крыме сваё апошняе мерапрыемства. Цалкам мажліва, прычынай гэтага ёсць інтэграванне і адаптаванне Крыма расійскай імперыякратыяй у палітычную, эканамічную, сацыякультурніцкую і гуманітарную прастору Расіі. Мэты і задачы аперацый уплыву на гэтай частцы ўкраінскай тэрыторыі ўжо выкананыя.

Варта зазначыць, што на ўласна расійскай тэрыторыі «Фармат-А3» публічныя сустрэчы не праводзіць, дзейнасць клуба засяроджана цалкам на дзяржавах «бліжняга замежжа», паводле расійскай тэрміналогіі.

### «Сковорода» Дзмітрыя Кісялёва

Пасля таго, як на прэзідэнцкіх выбарах у 2010 годзе перамог Віктар Януковіч, правядзенне расійскіх аперацый уплыву ва Украіне стала цалкам неабмежаваным.

У верасні 2010 года тагачасны намеснік гендырэктара ВГТРК Дзмітрый Кісялёў, які ўжо тады быў заангажаваны ў палітычныя гульні Крамля, стварыў у Кіеве наступны клуб — «Сковорода», — названы так у гонар украінскага філосафа Рыгора Скаварады. Гэтая «дыскусійная» пляцоўка стала яшчэ адным з інструментаў рэалізацыі расійскай стратэгіі «soft power» ва Украіне — толькі больш значнага калібру. Паводле задумы расійскай імперыякратыі, клуб быў створаны для здзяйснення непасрэднага ўплыву ўжо на ўкраінскую эліту.

Цікава, што Кісялёў, адзін з асноўных сённяшніх расійскіх медыякілераў, за некалькі месяцаў да стварэння «Сковороды» быў запрошаны клубам «Фармат-А3» на публічную сустрэчу ў Сімферопаль. На гэтым мерапрыемстве, яшчэ за чатыры гады да актыўнай фазы баявых дзеянняў у Данбасе, Кісялёў выказаў словы, якія раскрылі сапраўдныя мэты і задачы сеціва расійскіх медыяклубаў ва Украіне, і якія выразна артыкулююць неаімперскую палітыку РФ: «Украина и Россия — это пример разделенного народа, как, скажем, Восточная и Западная Германия, Южная и Северная Корея. Я считаю, что мы один народ и у нас общие национальные интересы».

З кастрычніка 2010-га і па кастрычнік 2013 года клуб «Сковорода» праводзіў амаль штомесячныя мерапрыемствы з запрошанымі спікерамі — расійскімі топ-палітыкамі, дарадцамі кіраўніка РФ, дэпутатамі Дзярждумы, журналістамі, пісьменнікамі, рэжысёрамі, прадстаўнікамі бізнес-колаў, рэлігійнымі дзеячамі.



**Галоўны рэдактар «КП» Сунгоркін і кіраўнік РФ Пуцін**



**Дзмітрый Кісялёў частуе бульбай-фры колішняга міністра замежных спраў і будучага пятага прэзідэнта Украіны Пятра Парашэнку. Фота зроблена ў 2011 годзе падчас аднаго з свецкіх раўтаў у Кіеве, арганізаванага клубам «Сковорода». Фота skovoroda.net**

Значная частка гэтых спікераў паралельна ўдзельнічала і ў мерапрыемствах сястрынскіх клубаў — «Импрессум» і «Формат-А3».

Цікава, што сярод сяброў клуба былі тагачасныя прадстаўнікі ўкраінскага ўраду, народныя дэпутаты Вярхоўнай Рады, уплывовыя фінансісты, алігарх Віктар Пінчук, прэзідэнт Нацыянальнай акадэміі навук Украіны Барыс Патон і нават Пётр Парашэнка.

З расійскага боку сябрамі клуба з'яўляліся пераважна ідэолагі еўразійства, якія асабіста ўдзельнічалі ў пасяджэннях клуба ў Кіеве ў якасці спікераў: Герман Грэф, Сяргей Глазьеў, Аляксандр Дугін, Уладзімір Жырыноўскі, Мікіта Міхалкоў, Уладзімір Мядзінскі, Сяргей Нарышкін, Аляксандр Прахանаў, Карэн Шахназараў, Міхаіл Швыдкой і іншыя. Значная частка з іх пры гэтым з'яўляюцца і чальцамі «Изборского клуба».

На мерапрыемствах «Сковороды» асаблівая ўвага надавалася прасоўванню не толькі ідэалаў асноўнага геапалітычнага праекту РФ — еўразійства, — але і эканамічнай і палітычнай інтэграцыі Украіны з Расіяй, уваходжанню яе ў структуры расійскіх інтэграцыйных праектаў: «ЕврАзЭС» і «Таможенный союз».

З пачаткам Рэвалюцыі Годнасці ў лістападзе 2013 года дзейнасць «Сковороды» была згорнутая. Падтрымка канцэпту еўразійства і расійскага імперскага праекту былі рашуча адкінутыя ўкраінскай элітай.

Цікава, што адзін з ключавых прадстаўнікоў расійскай імперыякратыі рэжысёр Мікіта Міхалкоў яшчэ ў 2010 годзе падчас адной з першых сустрэч клуба ў Кіеве падзяліўся сваёй візіяй супольнай будучыні Украіны і Расіі: «Лет через 10 одна страна будет. Пусть не одно государство, но одна страна!» Аднак гэтыя планы не былі рэалізаваныя. Адзінае, што яднае зараз Расію і Украіну — супольная лінія фронту і нерэгулярны абмен ваеннапалоннымі.

## Прапагандысцкая экспансія РФ у Латвіі

Пасля пашырэння расійскіх аперацый уплыву на Украіну ў арбіту інтарэсаў прапагандысцкіх клубаў трапілі краіны Балтыі. 22 красавіка 2011 года «Формат-А3» правёў свае першае мерапрыемства ў Латвіі, на якое быў запрошаны адыёзны дзяяч «русского мира» і сталы чалец «Изборского клуба» Міхаіл Хазін. Непасрэдную супрацу з клубам здзяйсняюць фонд «Культурная линия» і «Русское общество Латвии».

Латвійскія спецслужбы адразу засяродзілі ўвагу на дзейнасці гэтага клуба, каб абмежаваць уздзеянне рычагоў расійскага ўплыву на сваю дзяржаву. Паводле інфармацыі Бюро па абароне Канстытуцыі Латвійскай Рэспублікі (Satversmes aizsardzības birojs, SAB), медыяклуб «Формат-А3» з'яўляецца расійскай платформай, місія якой палягае ў забеспячэнні набліжаных да Крамля расійскіх дзеячаў і экспертаў неабходнай міжнароднай медыяпрасторай для правядзення ў павестку дня міжнародных СМІ інфармацыйных наратываў, якія цалкам адпавядаюць рэалізацыі Расіяй свайго знешнепалітычнага курсу.

Прадстаўніком «Формат-А3» у Латвіі з'яўляецца Вольга Аўдзевіч (Барысава), журналістка рускамоўнага радыё Baltkom. Як і кіраўніца «Формат-А3» Галіна Сапожнікава, яна скончыла журналіскі факультэт Ленінградскага ўніверсітэта. Працавала ў рыжскай газеце «Советская молодежь», была галоўным рэдактарам рускамоўнага выдання «Суббота». З'яўляецца кіраўніком фонда «Культурная линия» (Kultūras līnija), зарэестраванага ў снежні 2014 года. Разам з ёй чальцамі праўлення фонду з'яўляюцца Святлана Радзіня і Вераніка Раманава. Менавіта пад прыкрыццём гэтага фонду Аўдзевіч арганізуе ў Латвіі мерапрыемствы клуба «Формат-А3», якія асабіста і мадэруе.



**Прадстаўніца клуба «Формат-А3» у Латвіі і кіраўніца фонда «Культурная линия» Вольга Аўдзевіч. Фота format-a3.ru**

Характэрна, што на імпрэзах клуба ў Латвіі запрошаныя расійскія выступоўцы выказваюць свае меркаванні зазвычай у нейтральнай і памяркоўнай афарбоўцы. Гэты прыём разлічаны на своеасаблівы фідбэк міжнародных СМІ, а таксама прыцягненне ўвагі прадстаўнікоў замежнага экспертнага асяроддзя. Паводле дадзеных SAB, падчас правядзення сустрэчаў клуба ў Рызе сярод слухачоў прысутнічаюць супрацоўнікі замежных спецслужб, якія працуюць у Латвіі пад дыпламатычным прыкрыццём. Відавочна, што імі могуць з'яўляцца прадстаўнікі расійскай знешняй выведкі, якія здзяйсняюць аператыўны збор інфармацыі ў дачыненні да асобаў, што цікавяцца Расіяй, а таксама вывучаюць рэакцыю ўдзельнікаў на разнастайныя тэмы дыскусій.

Для ўсяго сеціва расійскіх медыяклубаў тыповае правядзенне публічных сустрэчаў з ратацыяй адных і тых жа спікераў. Сярод якіх вядомыя расійскія і замежныя медыяперсоны, у тым ліку пісьменнікі, паэты, людзі кіно, прадстаўнікі журналісцкага асяроддзя, палітолагі, эканамісты і нават касманаўты. У абсалютнай большасці іх погляды цалкам супадаюць з наратывамі і штампамі расійскай прапаганды. З дапамогай стварэння ілюзіі пэўнай бесстароннасці і легітымнасці гэтых мерапрыемстваў здзяйсняюцца доўгатэрміновыя і паслядоўныя інфармацыйныя і псіхалагічныя аперацыі РФ, мэты і задачы якіх абіраюцца для кожнай краіны асобна.

На тэрыторыі Латвіі была выяўлена яшчэ адна кампанія Ігара Цяцерына, сузаснавальніка клуба «Импрессум», якая мае аналагічнае найменне, як і ў яго выдавецкага дома ў Эстоніі — SKP Media. Менавіта ў гэтым выдавецтве пабачылі свет інфармацыйныя прадукты, якія можна ўпэўнена разглядаць у кантэксце вядзення інфармацыйнай вайны супраць Эстоніі і Грузіі.

Адзіным бенефіцыярам гэтай латвійскай кампаніі з'яўляецца Ігар Цяцерын. Цікава, што яго сталым месцам жыхарства пазначана менавіта Расійская Федэрацыя.

Нагадаем: паводле Службы ўнутранай бяспекі Эстоніі (Kaitsepolitseiamet), клуб «Импрессум», сузаснавальніцай якога з'яўляецца таксама Галіна Сапожнікава, непасрэдна звязаны са Службай знешняй выведкі РФ (*больш пра Цяцерына і медыяклуб «Импрессум» чытайце ў першай частцы расследавання — НЧ № 18 (677) ад 16.05.2020*).

## Літва ў прыцэле расійскай інфармацыйнай вайны

Яшчэ ў лютым 2012 года тагачасны міністр абароны Літоўскай рэспублікі Раса Юкнявічэне ў афіцыйнай публікацыі на інфармацыйным рэсурсе Delfi засведчыла, што кіраўніца «Формат-А3» і журналістка «КП» Галіна Сапожнікава непасрэдна звязаная са спецслужбамі РФ. Імя Сапожнікавай фігуравала ў кантэксце правядзення Расіяй у Літве аперацый інфармацыйнага ўздзеяння і ўплыву.

Аднак, нягледзячы на адкрытае абвінавачванне ў падрыўной дзейнасці, Сапожнікава пашырыла актыўнасць клуба «Формат-А3» і на гэтую краіну Балтыі. 19 верасня 2012 года ў Вільні прайшло першае мерапрыемства.




**Мерапрыемства «Формат-А3» у Вільні. Першы леваруч — Альгіс Паланта, у цэнтры — расійскі пісьменнік і сталы чалец «Изборского клуба» Юрый Палякаў. Фота format-a3.ru**

Прадстаўніком «Формат-А3» у Літве з'яўляецца Альгіс Каланта, які больш за 15 гадоў быў рэдактарам рускамоўнай версіі газеты «Республика», а таксама працаваў у штотыднёвіку «Литовский курьер».

У жніўні 2015 года Сапожнікаву затрымалі і дэпартавалі з Літвы з забаронай наведваць гэтую краіну цягам пяці гадоў. Аднак на дзейнасці «Формат-А3» гэта аніяк не адбілася, клуб амаль штомесяц праводзіць сустрэчы з расійскімі спікерамі. Тым часам Сапожнікава толькі актывізавала свае дзеянні супраць Літвы, якія маюць усе адзнакі інфармацыйна-псіхалагічных аперацый.

Яскравы прыклада — прапагандысцкая кніга яе аўтарства: «Кто кого предал. Как убивали СССР и что стало с теми, кто пытался его спасти», якая была перакладзена і выдадзеная ў Вільні.

У лютым 2019 года гэты прадукт расійскай інфармацыйнай вайны быў забаронены ў Літве. Паводле Генеральнай пракуратуры Літоўскай Рэспублікі, у сваёй кнізе Сапожнікава тэндэнцыйна скажае гістарычныя факты пра забойства бяззбройных людзей ля Віленскай тэлевежы ў студзені 1991 года, масавы расстрэл літоўскіх дзяржслужбоўцаў на Мядзінінкайскім памежным пункце ў траўні 1991 года і іншыя падзеі ў Літве ў 1990–1991 гадах. Згодна з рашэннем Віленскага акруговага суда, увесь наклад, надрукаваны літоўскім выдавецтвам «Politika», быў арыштаваны, а кіраўнік выдавецтва Павілас Масілёніс прыцягнуты да крымінальнай адказнасці за спробы апраўдання злачынстваў савецкай улады.

Падчас ухвалення вердыкту суд улічыў сталы ўзрост Масілёніса і пакараў яго толькі штрафам у памеры 2600 еўра.

Прыклады выдання прапагандысцкіх кніг расійскага квазігісторыка Аляксандра



**Кіраўнік выдавецтва «Politika» Павілас Масілёніс падчас судовага працэсу. Фота 15min.lt**

Дзюкава ў Эстоніі, Галіны Сапожнікавай у Эстоніі і Літве яскрава сведчаць, што расійская дзяржаўная прапаганда дзейнічае не толькі з дапамогай уласнага магутнага разгалінаванага медыясеціва, але спрабуе застасоўваць нават медыйныя магчымасці краін, якія з'яўляюцца для РФ першаснымі цэлямі ў яе паўнавартаснай інфармацыйнай вайне. Пры гэтым асноўная задача — максімальнае ўздзеянне на масавую і індывідуальную свядомасць, а таксама на сэнсы і перспектывы будучыні насельніцтва гэтых краінаў.

Агулам у 2013 годзе «Формат-А3» правёў у Латвіі, Літве, украінскім Крыме і Малдове амаль 50 мерапрыемстваў. Падобная дынаміка не змянялася і ў наступным, 2014 годзе. Апроч Кішынёва і Тыраспаля публічныя сустрэчы адбываліся таксама і ў традыцыйна прарасійскім рэгіёне Малдовы — Гагаузіі.

Характэрна, што, паводле колькасці праведзеных у Малдове медыяклубам «Формат-А3» публічных сустрэчаў, яна з'яўлялася прыярытэтным аб'ектам для рэалізацыі расійскіх аперацый уплыву. Аднак усё кардынальна змянілася, калі ў прыцэл яго актыўнасці патрапіла Беларусь.

У наступнай частцы расследавання мы пачнем аналіз дзейнасці аднаго з эфектыўных іструментаў інфармацыйнай вайны Расіі — «дыскусійнага» клуба «Формат-А3» — у Беларусі.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ВЕНГРЫЯ. Адрадзіць вялікую краіну!

Венгрыя адзначыла соты юбілей Трыанонскай дамовы, у выніку якой, як частка экс-імперыі Габсбургаў, яна страціла прыкладна 70 працэнтаў сваёй тэрыторыі. Хаця большасць жыхароў страчаных тэрыторый былі славянамі або румынамі, многія венгры таксама засталіся па-за межамі бацькаўшчыны. Трыанон да гэтага часу з'яўляецца траўмай для венгерскага грамадства, чым ахвотна карыстаюцца мясцовыя правыя і еўрафобы, у тым ліку кансерватыўны ўрад Віктара Орбана. Аднак гэтым разам акцэнты нечакана змяніліся. Замест таго, каб патрабаваць уз'яднання венграў, афіцыёз усталяваў сувязь паміж дамовай стогадовай даўніны і спробамі лібералаў пазбавіць народы Еўропы суверэнітэту. Паводле словаў спікера венгерскага парламента (чальца партыі Орбана), «у той час, як 100 гадоў таму сумнеў выклікала "існаванне венгерскай нацыі", сёння ў Брусэлі ставяць пад сумнеў існаванне ўсіх нацый у Еўропе». А Віктар Орбан увогуле прапанаваў для барацьбы з Брусэлем адрадзіць Вялікую Венгрыю ў выглядзе кааліцыі краін, якія ўваходзілі ў склад венгерскай дзяржавы.

**Паводле замежнай прэсы**

### УКРАІНА. Мышы атакуюць!

Украінская аўдыторыя не магла прайсці міма незвычайнай навіны пра тое, што ў фондзе Дзяржаўнага рэзерву ў выніку аўдыту выяўлена буйная нястача збожжа (2700 вагонаў), якое, па словах інспектараў, нібыта з'елі мышы. Страты ацэньваюцца ў 800 мільёнаў грыўняў (прыкладна 30 мільёнаў долараў), паведаміў дарадца міністра ўнутраных спраў. Такая забаўная трактоўка, натуральна, выклікала сумневы. Тым больш, што спецыялісты прадставілі некаторыя матэматычныя аспекты мышынага злачынства. Паводле іх разлікаў, «2700 вагонаў — гэта 189 тысяч тон збожжа. Мыш за дзень з'ядае тры грамы збожжа. Ну давайце лічыць, што ўкраінская мыш пражэрлівая і можа з'есці 6 грамаў. За месяц ёй спатрэбіцца 180 грамаў, гэта азначае, трэба 5000 мышэй на тону збожжа. 5000 памножыць на 189 тон — гэта 945 мільёнаў мышэй». Карупцыйны скандал у наяўнасці, аднак афера наўрад ці будзе мець нейкія тэктанічныя наступствы праз кволы баланс сіл унутры ўкраінскай улады. Між тым, украінскія мышы працягваюць сваю чорную справу. 7 чэрвеня стала вядома, што ў Цярнопальскім судзе таямніча знік рэчавы доказ — пакунак марыхуаны. Пракурор усю адказнасць за знікненне пераклаў на грызуноў.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### АЎСТРАЛІЯ. Серыяламі супраць Пекіна

Супрацьстаянне Захаду і Кітая набірае абароты. Ва ўрадзе Аўстраліі задумаліся наконт таго, як спыніць мяккую культурную экспансію Кітая ў азіяцкім і ціхаакіянскім рэгіёнах. У якасці меры ў адказ вырашана пусціць у ход… серыялы. Першым мерапрыемствам у гэтай галіне стала рашэнне ўрада Аўстраліі выкласці ў сеціва архіў знятых у краіне «мыльных операў» для бясплатнага прагляду. Акрамя таго, гэтыя серыялы на суседнія краіны пачне трансляваць спецыяльны канал, які будзе каштаваць аўстралійскаму бюджэту 17 мільёнаў долараў. Цяжка сказаць, наколькі паказ тых серыялаў дапаможа блакаваць кітайскую прапаганду: большасці жыхароў Акіяніі чужы заходні лад жыцця, які вядуць героі аўстралійскіх кінасагаў. З іншага боку, аўстралійцам трэба было нешта рабіць. Пекін інтэнсіўна нарошчвае свой уплыў сярод жыхароў краін рэгіёну. Аж да таго, што кітайскімі СМІ выкупляюцца цэлыя выпускі мясцовай прэсы.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ЗША. Новая пагроза

Эпідэмія, масавае беспрацоўе, грамадзянскія пратэсты, раскол элітаў… Аказваецца, гэта не поўны пералік бедстваў ЗША. На гарызонце новая праблема. Хутчэй за ўсё, увосень лекары вынайдуць вакцыну ад каронавіруса — і пачнецца масавая вакцынацыя. Між тым, ужо сёння многія амерыканцы кансерватыўных поглядаў кажуць, што бачаць у вакцынацыі нейкую змову супраць Амерыкі і яе каштоўнасцяў. Апошнія апытанні Associated Press паказваюць, што толькі 49 працэнтаў амерыканцаў плануюць вакцынавацца. Яшчэ 29 працэнтаў маюць намер жорстка супраціўляцца прышчэпкам. На думку прэсы, вакцынацыя яшчэ больш узмоцніць раскол у амерыканскім грамадстве, якое і так знаходзіцца на мяжы маштабнага грамадзянскага канфлікту. Выйсцем, як піша The New York Times, павінна стаць тэрміновае фарміраванне шырокага грамадзянскага руху за вакцынацыю. Інакш кампанія правяліцца, што выльецца ў новы ўздым эпідэміі і справакуе праблемы ў эканоміцы. Таксама журналісты адзначаюць цікавы факт: прыкладна 44 працэнтаў выбаршчыкаў рэспубліканскай партыі баяцца вакцынацыі і хочуць, каб Трамп таксама публічна асудзіў прышчэпкі.

**Паводле амерыканскай прэсы**



Фота www.russian7.ru

# Катастрофа 1940-га

Алег НОВІКАЎ

**80 гадоў таму свет стаў сведкам чагосьці неверагоднага. За чатыры тыдні Вермахт разбіў французскую армію — ці не самую моцную на той час у свеце — і прымусіў Парыж да капітуляцыі. Дасюль няма адназначнага тлумачэння гэтаму феномену.**

Як вядома, няўдалая спроба арміі Напалеона перайсці раку Беразіну ўвосень 1812 года ўзбагаціла слоўнік французскай мовы. У ім з'явілася слова «Беразіна», пад якім разумеюць правал, катастрофу або канфуз. Аднак маштабам катастрофы французаў у траўні-чэрвені 1940 года нават слова «Беразіна» не пасуе. Хутчэй, трэба казаць «Вялікая Беразіна». Глядзіце сам — гітлераўскай арміі спатрэбілася ўсяго каля шасці тыдняў, каб акупаваць Францыю і ўсе краіны Бенілюкса ў дадатак.

Пры гэтым Францыю не атакавалі нечакана. Краіна фармальна знаходзілася ў стане вайны з нацысцкай Германіяй з верасня 1939-га. Больш за тое, яна была добра падрыхтаваная — выдаткі на абарону раслі яшчэ з сярэдзіны 1930-х гадоў, што дало магчымасць узмацніць паветраныя сілы, мадэрнізаваць ваенна-марскі флот, забяспечыць армію сучаснай зброяй. І, нарэшце, паспець дабудаваць лінію Мажыно — умацаваную мяжу на ўсходзе Францыі.

Аднак у чэрвені ўся вайсковая машына ляснулася пад ударамі Вермахту. Хіба што часткі брытанскага экспедыцыйнага корпуса і асобныя злучэнні французскай і бельгійскай армій, заблакаваныя ў Дзюнкерку, былі эвакуяваныя.

Праўда, сучасныя гісторыкі сцвярджаюць, што на самай справе па большай частцы французскія салдаты змагаліся мужна і ўпарта. Падлічана, што французы знішчылі тады каля 27 тысяч немцаў, хаця страцілі прыкладна 64 тысячы. Сёння ўпершыню гучаць прапановы пабудаваць нейкі мемарыял у гонар жаўнераў, а таксама тых, хто трапіў у нямецкі палон. Гэта, на думку аўтараў ідэі, можа неяк маральна кампенсаваць стаўленне да іх пасля вайны. Тыя, хто трапіў у палон увесну 1940-га, намагаліся не казаць пра гэта публічна. Іх палон быў фрагментам эпохі калабарацыі — тэмы, якая лічылася табуяванай.

Цікава, што дасюль ніхто не разумее сапраўднай прычыны катастрофы. З 1940 года былі выказаныя мільён і адна версія, каб растлумачыць паразу французаў — аж ад тэорыі пра характар мастоў праз раку Маас, што, маўляў, фатальна дапамагло немцам. З той жа серыі — гісторыя пра лёсавызначальны выпадак, калі планы Вермахта раптоўна трапілі бельгійцам — саюзнікам Парыжа і Лондана. Гітлеру давялося шукаць альтэрнатыву, і тут нехта згадаў імя Гудэрыяна, чый план атакаваць французаў праз Ардэны забракавалі.

Тое, што французы не ўтрымалі лінію фронту, тлумачаць у тым ліку асаблівасцямі псіхікі. Перш чым пацярпець паразу, жаўнерам давялося перажыць так званую «смешную вайну». З верасня 1939-га па травень 1940-га, нягледзячы на абвяшчэнне вайны Германіі, Францыя не рызыкнула атакаваць пазіцыі ворага. Ніхто з палітыкаў не хацеў браць адказнасць за новую вайну. У акопах, у выніку, паступова расслабіліся, сумавалі па доме ды не разумелі сэнсу свайго знаходжання на перадавой. «Гэты перыяд пахіснуў іх (жаўнераў) упэўненасць, пачуццё абавязку і выклікаў сумневы ў пазіцыі ўраду», — кажа адзін з сучасных французскіх гісторыкаў.

Папулярная таксама думка, што адказнасць за правал нясе французскае кіраўніцтва, якое працягвала жыць паводле клішэ Першай сусветнай вайны. Камандаванне бачыла ход вайны як пазіцыйнае супрацьстаянне з выкарыстаннем агнявой моцы для спынення руху праціўніка. Плюс (у лепшым выпадку) невялікія наступальныя аперацыі. Таму некаторыя камандзіры папросту не ведалі, як рэагаваць, калі пачаўся нямецкі бліцкрыг. Паніка была такая моцная, што некаторыя французскія фарміраванні, па факце, самараспусціліся.

Нарэшце, ёсць думка, што катастрофа 1940-га стала заканамерным фіналам рэжыму Трэцяй Рэспублікі, адзнакамі якой былі дзяржаўныя крызісы кабінетаў і палітычная карупцыя. Вядомы гісторык Макс Блох пазней пісаў, што краіна, па-сутнасці, капітулявала да 10 траўня 1940 года, калі немцы пайшлі ў наступ. Яе пахавалі пацыфісцкая блізарукасць палітыкаў, эгаізм прафсаюзаў і пазіцыя часткі буржуазіі, якая праз антыкамуністычныя забабоны была гатовая да супрацоўніцтва з Гітлерам.

Тэзісы Блоха, дарэчы, аказаліся найбольш запатрабаванымі сёння. У французскай апазіцыйнай прэсе ахвотна параўноўваюць атмасферу 1940-га з панікай, якая ахапіла французскія дзяржаўныя ўстановы і грамадства напачатку эпідэміі каронавіруса. Усё гэта дае крытыкам Макрона глебу, каб патрабаваць рэдакцыі новай Канстытуцыі.

Пад раздачу трапіў і герой эвакуацыі Дзюнкерка і адначасова сімвал брытанскага імперыялізму Уінстан Чэрчыль, чый помнік днямі апаганілі ў Лондане падчас антырасісцкіх маніфестацый. Такое ўражанне, што адбываецца імклівая рэвізія грамадскай ацэнкі гэтага персанажа. Яшчэ два-тры гады таму грамадскасць была ў захапленні ад фільму «Цёмныя часы» пра тое, як Чэрчыль мабілізуе Брытанію на працяг вайны з Гітлерам. Кульмінацыяй фільму стаў славуты выступ прэм'ера пра тое, што «мы будзем змагацца нават на пляжах».

Як высвятляецца, рэчаіснасць была зусім іншая. Шмат тых, хто тады слухаў прамову, адчулі, хутчэй, адчай з-за пасажа Чэрчыля пра «барацьбу да тых часоў, пакуль Новы Свет з усёй сваёй сілай і моцай прыйдзе на дапамогу і вызваленне Старога Свету». У дадатак нават біёграфы Чэрчыля пагаджаюцца, што той чытаў свой тэкст ужо добра заклаўшы за каўнер. «Няма ніякага доказу, што гэтыя словы мелі вырашальны ўплыў на волю брытанскага народа да барацьбы», — піша адзін з іх.

# Дадому ў Афрыку!

Алег НОВІКАЎ

**На фоне антырасісцкіх пратэстаў сярод афраамерыканцаў зноў набывае папулярнасць ідэя вяртання на зямлю продкаў — у Афрыку.**



Фота www.ekovolga.com

«Гана гатовая вітаць кожнага этнічнага афрыканца, які захоча збегчы сюды ад праяваў расізму, якія ён зведваў на працягу апошніх прыкладна трохсот гадоў!» — пафасна заявіла 8 чэрвеня міністр турызму Ганы. І ў дадатак канкрэтызавала, пра што гаворка: «Расізм у ЗША застаецца смяротнай пандэміяй больш за 400 гадоў, і адзіным выйсцем для прыгнечаных афрыканцаў у Амерыцы можа быць пераезд у Афрыку».

Ідэя рэпатрыяцыі грамадзян ЗША ў Афрыку, на першы погляд, больш чым экстравагантная. Не толькі таму, што папярэднія падобныя эксперыменты цяжка назваць паспяховымі. Нагадаем, што яшчэ ў 1816 годзе ў Злучаных Штатах паўстала грамадская арганізацыя, якая высунула ідэю вяртання свабодных афраамерыканцаў і рабоў, якіх выкупалі ў складчыну, у Афрыку. Былі таксама сабраныя адпаведныя сродкі для транспарціроўкі жадаючых.

Па прыбыцці на зямлю продкаў былыя рабы заснавалі рэспубліку Ліберыя. Пры гэтым самі яны лічылі сябе «амерыканцамі», а мясцовых трымалі за людзей трэцяга гатунку. З часам рэпатрыянты нават пачалі браць у рабства суседзяў і прадаваць іншым плямёнам. На цяперашні дзень Ліберыя — ледзь не самая бедная краіна Заходняй Афрыкі і трэцяя па гэтым паказчыку ў свеце, дзе беспрацоўе складае 85% насельніцтва.

**Нягледзячы на ўсе перавагі эміграцыі ў Афрыку, наўрад ці такая перспектыва зацікавіць большасць афраамерыканцаў. Рэінтэгрцыя ў іншае грамадства — заўсёды цяжкая справа. Тым больш, што афраамерыканская камуна ў Злучаных Штатах зусім не маналітная**

Нават калі лічыць ліберыйскі эксперымент няўдалым, нельга не задацца пытаннем, ці здольная тая ж Гана забяспечыць нават прыблізна той узровень жыцця, які маюць чарнаскурыя грамадзяне Злучаных Штатаў? У мінулым годзе сярэдні заробак у Гане склаў каля 500 долараў ЗША, што значна менш за нават мінімальны заробак Злучаных Штатах.

Ёсць пытанні і наконт грамадзянскіх правоў у афрыканскіх дзяржавах. Да прыкладу, гарачая салідарнасць з чорнымі братамі і сёстрамі за акіянам не перашкодзіла ўладам той жа Ганы разагнаць 7 чэрвеня дэманстрацыю салідарнасці з ахвярамі амерыканскага расізму. «Акцыя была арганізаваная без узгаднення з уладамі, насуперак правілам правядзення публічных сходаў і абмежаванням у сувязі з каронавірусам», — растлумачылі прычыны хапуна ў мясцовым МУС.

З іншага боку, як сведчыць статыстыка, невялікі, аднак сталы працэс рэпатрыяцыі ў Афрыку ўсё ж меў месца нават яшчэ да апошніх падзей. Як паведамляе канал Al Jazeera, у асноўным афраамерыканцы абіраюць для сябе ў якасці новай радзімы Гамбію, Гану і Сенегал. А ў сталіцы Ганы, дзе жыве ад трох да пяці тысяч экс-грамадзян ЗША, нават ёсць нешта накшталт амерыканскага кварталу.

Цяпер, пасля падзей у Мінесоце, на думку назіральнікаў, афраамерыканская міграцыя ў Афрыку будуць больш значнай. Як сведчыць гістарычны вопыт, ёсць у рэвалюцыі пачатак, але няма ў рэвалюцыі канца. Відавочна, што белая і чорная камуны будуць доўга і не без эксцэсаў шукаць шляхі да новай формулы суіснавання. І не факт яшчэ, што знойдуць. Іншымі словамі, расавае супрацьстаянне — гэта цяпер надоўга, што выклікае ў некаторых жаданне пакаваць валізкі.

Магчыма таму менавіта цяпер, а дакладней 25 траўня, адбылася сустрэча шэрагу амерыканскіх і афрыканскіх арганізацый, якія падпісалі дамову пра заснаванне так званага The Exodus Alliance (Альянс сыходу). Альянс ставіць за мэту самым бліжэйшым часам адправіць на гістарычную радзіму мільён выхадцаў з Афрыкі — натуральна, пераважна афраамерыканцаў. Людзей накіруюць у Сенегал, дзе мясцовы ўрад ужо выдзеліў 600 гектараў зямлі пад будаўніцтва спецыяльнага гораду для рэпатрыянтаў. Ім, дарэчы, збіраюцца нават даць стартавы капітал на развіццё бізнесу.

Тэхнакраты, якія стаяць за падобнымі праектамі, кажуць мала прыгожых слоў пра салідарнасць з чорнымі братамі. Яны не хаваюць сваіх спадзяванняў на тое, што разам з рэпатрыянтамі ў краіну прыйдуць інвестыцыі. Будуць створаныя новыя працоўныя месцы, паўстануць новыя сферы эканомікі, якія будуць арыентаваныя на багаты амерыканскі рынак. У дадатак людзі, якія выраслі ў Злучаных Штатах, могуць імпартаваць цывілізаваную культуру бізнесу, паводле якой, напрыклад, прадпрымальнік павінен плаціць падаткі. Ёсць надзея, што хваля мігрантаў прынясе таксама і пазітыўныя змены ў афрыканскую палітычную культуру.

Зрэшты, нягледзячы на ўсе перавагі эміграцыі ў Афрыку, наўрад ці такая перспектыва зацікавіць большасць афраамерыканцаў. Рэінтэгрцыя ў іншае грамадства — заўсёды цяжкая справа. Тым больш, што афраамерыканская камуна ў Злучаных Штатах па ідэалагічных пытаннях зусім не маналітная. Так, падчас антырасісцкіх пратэстаў 2012 года нават гучалі заклікі рэанімаваць праект асобнай дзяржавы афрыканцаў на Поўдні, з якім калісьці насілася амерыканская кампартыя. У 2015 годзе спікер уплывовай афраамерыканскай арганізацыі «Нацыя Ісламу» таксама казаў, што сепаратызм чорных можа быць ключом вырашэння расавай праблемы ў ЗША.

Праўда, сёння першую ролю ў маніфестацыях адыгрываюць не сепаратысты, а левалібе" ральная арганізацыя Black Lives Matter. У сваіх прэс-рэлізах і заявах яе кіраўніцтва абмяжоўваецца патрабаваннем рэформы паліцыі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Мікалай Платошкін

Хатні арышт лідара руху «За новы сацыялізм» — папулярнага расійскага калумніста і выкладчыка гісторыі — за арганізацыю масавых беспарадкаў з'явіўляецца сёння адной з топавых тэмаў палітычнай дыскусіі ў Расіі. Ніхто не можа зразумець, навошта ўлада ўключыла палітычны рэпрэсіўны апарат супраць выкладчыка?

У красавіку ён, сапраўды, прапаноўваў рыхтаваць людзей у рэгіёнах вакол Масквы для іх адпраўкі на масавыя мітынгі і «перахопу ўлады». Аднак слаба верыцца, што «красавіцкія тэзісы» Мікалая Платошкіна мелі водгук у масах. Можна меркаваць, што нехта ў спецслужбах вырашыў атрымаць новыя зорачкі на пагоны. Тым больш, сам Платошкін моцна загуляўся ў рэвалюцыянера.

Ёсць меркаванне, што гісторык стаў разменнай манетай у барацьбе паміж фракцыямі Крамля. Магчыма таксама, Платошкіну робяць рэвалюцыйную біяграфію, каб зрабіць яго канкурэнтам камуністаў Зюганава. Напярэдадні Генадзь Зюганаў нечакана заклікаў галасаваць супраць паправак у Канстытуцыю, чым выклікаў раздражненне ў крамлёўскіх колах.

Пакуль цяжка сказаць, якая з версій блізкая да праўды. Таксама не зразумела, які лёс чакае затрыманага. У сеціве вядзецца актыўная кампанія па фарміраванні негатыўнага вобразу затрыманага. Вось прыклад такіх тэкстаў: «Відавочна, што Платошкін — замежная сіла, дэсантаваная ў Расію ў 2018 годзе, у сувязі са слабымі Навальным і Касьянавым, якія не выцягвалі аперацыі супраць расійскай дзяржавы і народа. Менавіта таму ў яго інвеставалі такія гіганцкія грошы. Ён ездзіць па ўсёй краіне, яго круцяць на тэлебачанні з раніцы да вечара. Гэта азначае, што ён у чыстым выглядзе амерыканскі праект».



### Хаа Хайдун

Падобна на тое, што былы футбаліст зборнай Кітая, які жыве за мяжой, можа стаць лідарам кітайскай дыяспары, якая дамагаецца дэмакратычных рэформаў на радзіме.

На сваім YouTube-канале Хайдун нечакана згадаў пра 31-ю гадавіну падаўлення студэнцкіх акцый пратэсту на плошчы Цяньаньмэнь і раскрытыкаваў афіцыйны Пекін. «Думаю, камуністычная партыя Кітая больш не павінна растоптваць свой народ. Я лічу, што чалавецтва павінна наогул пазбавіцца ад камунізму. Да такой высновы я прыйшоў, пражыўшы 50 гадоў», — сказаў Хайдун. Ён таксама абвінаваціў Пекін у парушэнні прынцыпу «адна краіна, дзве сістэмы», які распаўсюджваецца на Ганконг, Тайвань і Макао. Нарэшце, ён зачытаў маніфест новай Кітайскай федэрацыі.

З улікам таго, што на Захадзе ідзе маштабная кампанія супраць КНР, верагодна, выступленне экс-спартоўца — не выпадковае, і яму рыхтуюць нейкае асобнае месца ў апазіцыі. Дарэчы, не першы раз футбалісты, якія зрабілі кар'еру за мяжой, вяртаюцца на радзіму і прыходзяць да ўлады. Напрыклад, вядомы футбаліст Джордж Веа, які пасля завяршэння кар'еры стаў прэзідэнтам Ліберыі. Што да кітайскага боку, то прадстаўнік МЗС Кітая на просьбу пра каментар наконт учынку спартоўца сказаў, што такіх абсурдных заяў ён не каментуе. Варта таксама дадаць, што YouTube у Кітаі забаронены.

### Генадзь Труханаў



Прыхільнікі ўнітарнай Украіны б'юць трывогу. Калі ім верыць, мэр Адэсы мае намер рэанімаваць «сепаратысцкі» праект аддзялення. Усё таму, што Труханаў распарадзіўся стварыць рабочую групу «па пытаннях аднаўлення і пашырэння паўнавартаснай дзейнасці спецыяльнай эканамічнай зоны», што нагадвае праект порта-франка.

Порта-франка — папулярны ў Адэсе міф, што вяртанне гораду статусу вольнага порта, які ён меў у XIX стагоддзі, стане пралогам эканамічнага буму. У часы незалежнасці гэтую тэму эксплуатавалі мясцовыя палітыкі, дамагаючыся для паўднёвай Пальміры спецыяльнага мытнага рэжыму. Кіеў глядзеў на гэта пасіўна. Тым больш, што ў свой час цэнтр быў не супраць даць адэсітам тое порта-франка.

Пасля 2014-га праект быў імкліва палітызаваны. Паўстала група палітыкаў, якія называлі гэтую ідэю «прыгожай шыльдай для сепаратызму». Некаторыя нават казалі, што Сяргей Ківалаў, адзін з яе аўтараў, таемна склаў праект Канстытуцыі «Адэскай Народнай Рэспублікі».

Паводле зразумелых прычынаў, пра порта-франка на некаторы час забыліся. Аднак распачатая яшчэ пры Парашэнку рэформа мясцовага самакіравання і слабая вертыкаль, здаецца, рэанімавалі старую ідэю, якая, на першы погляд, не мае ніякага палітычнага складніку. Зрэшты, нельга выключаць, што Труханаў папросту выкарыстоўвае папулярную тэму, каб падняць свой рэйтынг напярэдадні восеньскіх мясцовых выбараў.

# Радавы Антон Гусарэвіч і капітан Эмілія Плятэр: геаграфія жыццяпісаў

Тамара КАРОТКАЯ

**Свайго дзеда — Гусарэвіча Антона Мікалаевіча — я не ведала. Ён быў прызваны ў дзейную армію ў ліпені 1944 года. Ляжаў у руінах толькі што вызвалены Мінск, жыхары невялікай дзедавай вёскі Затычына зносілі і звозілі ў брацкую магілу целы дзясяткаў байцоў 352-й стралковай дывізіі, што вызваляла прысталічныя землі. Арміі патрэбны былі свежыя сілы, бо вайна працягвалася. Дзеду было 49 гадоў...**

А недзе праз месяц прыйшла пахаронка. На руках у Альжбеты Гусарэвіч, па-вясковаму Антаніхі, засталіся чацвёра дзяцей. Самай старэйшай Марыі, маёй будучай маці, толькі споўнілася васямнаццаць. У цяжкіх пасляваенных буднях і клопатах пра хлеб надзённы тая пахаронка недзе згубілася. Але ў калектыўнай памяці ўсіх Гусарэвічаў цвёрда адкладаліся мясціны, дзе пахаваны іх бацька: недзе пад Сувалкамі. Згадвалі яго як чалавека спакойнага, працавітага, добрага гаспадара і... пакутнага на язву страўніка. А яшчэ ён вельмі любіў пчол. Добра ведаў іх нораў, меў багаты пчалярскі рыштунак, таму ў хаце мёд не зводзіўся амаль ніколі.

Калі з дзясятак гадоў таму мне захацелася адшукаць месца спачыну свайго дзеда, я не магла сабе ўявіць, што гэтыя пошукі расцягнуцца амаль на цэлы год і развязка гісторыі адбудзецца дзякуючы Эміліі Плятэр. Легендарнай удзельніцы паўстання 1831 года, нацыянальнай гераіні літоўцаў і палякаў, беларускай Жанне Д'Арк.

Але пра ўсё па парадку.

Першым маім крокам стала наведванне ваенкамата Мінскага раёна, дзе я атрымала копію пасведчання аб смерці А. М. Гусарэвіча, дасланага з палявога перасоўнага шпіталя № 564. Той самай пахаронкі (дакладней, яе карэньчыка), страчанай у пасляваенны час. Натуральна, што для гэтага спатрэбіліся юрыдычныя доказы майго сваяцтва з памерлым. Як і чакалася, месцам смерці значылася Сувальская вобласць, але напісанні вёскі і раёна мелі розначытанні.

Далей падрабязна былі вывучаны дакументы, датычныя майго дзеда, з электроннага архіва, які ўтрымлівае інфармацыю пра загінулых, памерлых і без вестак страчаных воінаў Вялікай Айчыннай вайны (obd-memorial.ru). У выніку назва населенага пункта, дзе 11 жніўня 1944 года памёр ад хваробы чырвонаармеец 426-га стралковага палка Гусарэвіч Антон Мікалаевіч, была ўдакладненая. Па-руску вёска пісалася *Копцово*. Заставалася знайсці гэтае самотнае месца на геаграфічнай карце. Але, як высветлілася, сапраўдныя пошукі толькі пачыналіся...



Помнік Эміліі Плятэр


Брацкая магіла савецкіх воінаў у в. Капчамесціс



Паўла Кароткая. Мой прадзед Антон Гусарэвіч (1895–1944). Палатно, алей

Для сучаснага чалавека населены пункт на тэрыторыі колішняй Сувальскай вобласці асацыюецца найперш з Польшчай. Таму і я дзень за днём, тыдзень за тыднем шукала вёску са згаданай назвай на паўночным усходзе нашай краіны-суседкі. Гэты былі ўсялякія даведнікі, геаграфічныя выданні, інтэрнэт-рэсурсы. Зразумела, што ў пошукавіку назва ў розных варыянтах заганялася на лацініцы. Вынікаў не было. Па дапамогу звярнулася ў Беларускі Чырвоны Крыж, адкуль прыйшоў адказ, што пошукавая праца надзвычай працяглая і будзе доўжыцца ад года і болей...

І вось калі ўжо логіка дзеянняў перастала ўключацца, бо я раз за разам вярталася ў тыя ж самыя мясціны, пальцы на камп'ютары інтуітыўна набралі магчымы беларускі варыянт назвы: Капцёва. І цуд! Адкрылася спасылка на тады невядомы мне сайт radzima.org, прысвечаны адметным мясцінам і помнікам Беларусі ў яе гістарычных межах. Выключная каштоўнасць гэтага самога па сабе надзвычай цікавага інфармацыйнага рэсурсу палягае ў тым, што назвы населеных пунктаў у памежных зонах даюцца тут на некалькіх мовах і ў розных варыянтах. І колішняя вёска Капцёва, размешчаная на беларуска-польска-літоўскім памежжы, сёння, як высветлілася, належыць да Лоздзеўскага раёна Літвы і называецца ...Karčiamiestis! Трапіла ж мясціна ў згаданы сайт не выпадкова. Тут у 1831 годзе на каталіцкіх могілках знайшла свой апошні прытулак 25-гадовы камандзір пяхотнага палка, капітан Эмілія Плятэр. Яе прыгожы помнік са словамі Адама Міцкевіча на пастаменце, прысвечанымі знакамітай жанчыне-ваяру, узвышаецца ў цэнтры вёскі.

Так нечакана перакрыжаваліся жыццяпісы радавога Антона Гусарэвіча і капітана Эміліі Плятэр. Магіла дзеда нарэшце знойдзеная. Трэба было належным чынам ушанаваць яго памяць, дзеля чаго на адрас безыменнага старасты незнаёмага мне Капчамесціса паляцеў ліст. Адказ мяне аднача́сова і ўзрадаваў, і засмуціў. Спадар Відмантас Дамбраўскас паведамляў, што ў канцы вайны побач з іх вёскай сапраўды знаходзіўся франтавы шпіталь. Раненых і хворых байцоў, якія тут паміралі, хавалі ў брацкай магіле. На адным з абеліскаў ён знайшоў прозвішча Гусарэвіч, але толькі з ініцыяламі П. А. Значыць, кропку ў пошуках ставіць было яшчэ рана.

Зноў пачынаю вывучаць дакументы абагульненага банка даных «Мемарыял». Высвятляецца, што сярод 62 воінаў Вялікай Айчыннай вайны з прозвішчам Гусарэвіч, якія загінулі, памерлі ці прапалі без вестак, няма ніводнага з ініцыяламі П. А. Заадно даведваюся, што ў адзін дзень з маім дзедам у шпіталі памерлі яшчэ тры чалавекі. Гэта Зільман Георгій Аляксандравіч, Чудзіновіч Іван Якаўлевіч і Рамашэўскі Фёдар Якаўлевіч. Зноў ляцяць пісьмо ў Капчамесціс. На гэты раз адказ з Літвы быў амаль што прадказальны. У спісах пахаваных старасты значацца ўсяго два прозвішчы: Чудзіновіч І. Я. і Раманшэўскі Ф. В.

Што ж, памылкі ў справе мемарыялізацыі воінскіх пахаванняў — рэч не такая ўжо і рэдкая. Успомнілася гісторыя з Васілём Быкавым, які быў «пахаваны» падчас Кіраваградскай аперацыі, пра што і сведчыў подпіс на адным з абеліскаў. Праўда, гэтая памылка прынесла нам, траім нашчадкам радавога Гусарэвіча, шмат прыкрых хвілін і каштавала немалых фінансавых выдаткаў. Літоўская амбасада палічыла недаказаным нашае сваяцтва з Гусарэвічам П. А. (?) і адмовіла нам у выдачы бясплатных візаў. Таму, каб наведаць магілу свайго дзеда, мы мусілі афармляць статус турыстаў...

І вось улетку 2010 года побач з маленькім абеліскам на тэрыторыі брацкіх могілак вёскі Капчамесціс леглі беларускія кветкі, прывезеныя дзвюма ўнучкамі і праўнучкай радавога Гусарэвіча. Знакам нашай пашаны да дзеда сталі таксама некалькі жменяў зямлі ад сядзібы, дзе ён нарадзіўся, дзе з'явіліся на свет яго дзеці, адкуль ён выправіўся ў апошні шлях, каб бараніць сваю Айчыну. Ён не загінуў на полі бою, як, дарэчы, і яго «пуцяводная зорка» Эмілія Плятэр, што таксама згасла ад цяжкой, пакутлівай хваробы. Але свой воінскі абавязак радавы Гусарэвіч выканаў да канца, адкрочыўшы ў 426-м стралковым палку шлях, адпушчаны яму Богам.

...А ўлетку 2019 года Антон Гусарэвіч вярнуўся ў сваю вёску, якая цяпер называецца Чаромуха. Вярнуўся ў выглядзе жывапіснага партрэта, напісанага яго праўнучкай Паўлай Кароткай. Летась палатно экспанавалася на Рэспубліканскай мастацкай выставе, прысвечанай 75-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. «Намолены» сотнямі вачэй удзячных нашчадкаў у мінскім Палацы мастацтваў, дзед Антон стане магутным абярэгам майго бацькоўскага дома.

Памылкі ў справе мемарыялізацыі воінскіх пахаванняў — рэч не такая ўжо і рэдкая. Успомнілася гісторыя з Васілём Быкавым, які быў «пахаваны» падчас Кіраваградскай аперацыі, пра што і сведчыў подпіс на адным з абеліскаў



Наданне княжацкага тытула князю Мікалаю Радзівілу Чорнаму (габелен з экспазіцыі ДУ «Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік "Нясвіж"»)

# Графствы ў Вялікім Княстве

Павел БУЛАТЫ

**Калі б у Вялікім Княстве Літоўскім існавалі агульныя карты магнацкіх уладанняў, то на іх вялікімі каляровымі плямамі зіхацелі б графствы. Мірскае, Быхаўскае, Ляхавіцкае… Мы прызвычаіліся, што графства — гэта нешта чужынскае, замежнае. Калі графства, то Ёркшыр ці Чэшыр, калі граф, то адразу Дракула… Але графствы з іх уладарамі-графамі стагоддзямі існавалі і на нашых землях.**

### Адкуль прыйшлі тытулы

Доўгі час на нашых землях панаваў адзін тытул — князь. Пачынаючы ад самага першага зафіксаванага ў летапісах полацкага князя Рагвалода, пад гэтым тытулам разумеюцца правіцелі рознага рангу і статусу: уладары ўдзелаў, племянных аб'яднанняў. Калі на палітычную авансцэну выйшла Вялікае Княства Літоўскае, сітуацыя з ужываннем і распаўсюджваннем тытулаў ускладнілася. Справа ў тым, што ад XIII стагоддзя побач з тытуламі ўдзельных князёў дынастыі Рурыкавічаў паўстае тытул манарха. І ён таксама княжацкі, хоць і былі неадназовыя спробы прыняць зручную для еўрапейскіх манархаў форму тытула.

З цягам часу справа развіцця тытулатуры толькі ўскладнялася: побач з Рурыкавічамі паўстала дынастыя Гедымінавічаў, улада ўдзельных кіраўнікоў то ўзмацнялася, то слабела… Але адно было нязменным: кожны, хто меў уладу, называў сябе князем. Хіба толькі асабліва выбітны і амбіцыйны ўладар да свайго тытулу дадаваў «вялікі». Карэнным чынам сітуацыя змянілася ў XVI стагоддзі. У той няпросты час Вялікае Княства Літоўскае супрацьстаяла Маскоўскаму княству. Натуральна, абедзве краіны шукалі саюзнікаў у Еўропе, найперш — бліжэйшай і ўплывовай Святой Рымскай імперыі. Ад пачатку XVI стагоддзя паміж Вільняй і Венай курсіравалі экіпажы дыпламатычнай службы, выбудоўваючы выгодныя стасункі. Найбольш таленавітыя прадстаўнікі вялікага князя мелі ласку ад тамашняга імператара быць уганараванымі тытуламі Святой Рымскай імперыі — тытуламі *«зацности и вывышенье»*. Прадстаўнікі родаў Гаштольдаў, Хадкевічаў, Іллінічаў, Тышкевічаў і, натуральна, Радзівілаў (нават некалькі разоў!) прывезлі на радзіму замежныя графскія тытулы.

### Тытул асабісты і тытул маёнтка

Ганаровыя графскія тытулы Святой Рымскай імперыі датычыліся і канкрэтных уладанняў. Разам з асабістымі тытуламі ў Вялікім Княстве Літоўскім з'явіліся спадчынныя тытулы маёнткаў. Так, у адным шэрагу з валасцямі і староствамі на абшарах краіны, дзе калісьці панавалі княствы, з'явіліся так званыя імпартныя графствы. Маёнткі з тытуламі асабліва не вылучаліся пэўнай спецыфікай уладкавання ці кіравання імі, яны былі часткай буйных земельных уладанняў магнатэрыі. Нададзены імператарам тытул графа меў абавязковую тэрытарыяльную прывязку. Як адзначалася ў дыпломах аб наданні тытула, выдадзенага новаспечанаму графу ад рымскага цэзара, тытул узвышаў маёнтак у статусе. Гэта было яскравым паказчыкам геаграфічнай лакалізацыі тытула, яго прывязкай да галоўнага рэсурсу магната — зямельных уладанняў. Цэнтры маёнткаў з тытуламі станавіліся ядром фарміравання фамільных рэзідэнцый.



Мірскі замак. Рэзідэнцыя графаў на Міры, гравюра Напалеона Орды

Першымі тытулярнымі маёнткамі Вялікага Княства Літоўскага ў 1518 годзе становяцца Гонядзь і Мядзел, абраныя Мікалаем Радзівілам для атрымання тытула Святой Рымскай імперыі. У 1530 годзе тытул Альбрэхта Гаштольда падкрэсліў статус маёнтка ў Геранёнах. Тытулы сям'і Радзівілаў, атрыманыя ў 1540–1550-х гадах, ахапілі Біржы, Дубінкі, Алыку, Нясвіж і Шыдлоўцы. У 1553 годзе малады Юры Ілініч да графства ўзвысіў Мір. Графства на Шклове і Мышы акрэсліваліся ў тытуле Гераніма Хадкевіча, які той атрымаў у 1555 годзе. Тытул Тышкевічаў распаўсюджваўся на Лагойск і Бярдзічаў.

### Прававы статус тытулаў: што вырашыла шляхта

У Еўропе тытул быў своеасаблівым цэнзам і адкрываў доступ да сацыяльных пераваг. У той жа Святой Рымскай імперыі, напрыклад, калі асоба мела слаunion тытул герцага, то яна смела магла прэтэндаваць на імперскі тытул князя імперыі, які адчыняў дзверы ў Рэйхстаг. З'яўленне тытула ў Вялікім Княстве Літоўскім давала падставы для з'яўлення няроўнасці і прывілеяванасці для вузкага кола магнатэрыі. А як жа славутая шляхецкая роўнасць?! Натуральна, з'яўленне замежных тытулаў не задаволіла шляхту. Адразу, як яны з'явіліся, статус графаў быў разгледжаны на Берасцейскім сойме 1518 годзе. Тады вырашылі, што дазвол на атрыманне тытула павінен быў даць вялікі князь. Але ў наступныя гады стаўленне да замежных тытулаў стала больш суровым.

У новастворанай у 1569 годзе дзяржаве — Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў — шляхта Кароны Польскай і Вялікага Княства Літоўскага ўраўноўвалася ў сваіх правах. Адной з характэрных рысаў шляхецкай роўнасці з'явілася скасаванне арыстакратычных і спадчынных тытулаў. Выключэннем сталі тыя тытулы (старажытныя княжацкія і замежныя), што былі прынятыя раней за сойм у Любліне. На соймах XVII стагоддзя катэгарычна адзначалася, што ніхто не мог прыўносіць і выкарыстоўваць замежныя тытулы, каб не парушаць роўнасць шляхецкага стану. Аднак ранейшыя тытулы не скасоўваліся. У гэтай прававой сітуацыі магнаты мусілі знайсці законнае выйсце, каб пашыраць тытулатуру.

### Магнаты шукаюць і знаходзяць

Забарона на прыўнясенне замежных тытулаў дзейнічала, новыя графскія тытулы не прывозіліся з-за мяжы, але з'яўляліся! Прадстаўнікі магнацкай супольнасці знайшлі цікавы ход, каб абысці соймавую забарону і пашырыць сферу ўжывання тытулаў. Маючы першапачаткова тытул, які дакладна звязваўся з месцам і акрэсліваўся ў грамаце нямецкага імператара, магнаты Вялікага Княства Літоўскага пачалі пераносіць тытулы на іншыя свае маёнткі. Фармальна распаўсюджванне ўласнага тытула на свае ж маёнткі не з'яўлялася прыўнясеннем новага замежнага тытула. Тое, што адбывалася з тытуламі, можна назваць геаграфічным пашырэннем ужо існуючай формы замежнай набілітацыі. Гэта з'яўлялася бадай адзіным законным спосабам пашырэння ганаровай замежнай тытулатуры ў Вялікім Княстве Літоўскім.

> **У Еўропе тытул быў своеасаблівым цэнзам і адкрываў доступ да сацыяльных пераваг. З'яўленне тытула ў Вялікім Княстве Літоўскім давала падставы для з'яўлення няроўнасці і прывілеяванасці для вузкага кола магнатэрыі**

Хадкевічы ў 1568 годзе замацавалі тытул графства за Быхавам і Глускам, пазней — за Ляхавічамі. Радзівілы распаўсюдзілі графскі тытул на свае маёнткі ў Койданаве, Копысі, Заблудаве, Бялай, Чарнаўчыцах, Крожы. Да забароны новых замежных тытулаў са згасаннем роду тытул губляўся. Пасля перарывання родаў Радзівілаў (галіны на Гонядзі і Мядзелі) і Гаштольдаў страчваліся і тытулы, якія датычыліся іх маёнткаў. Аднак пасля забароны тытуламі ўжо так не раскідваліся. Тытул бяздзетнага Ілініча «граф на Міры» перайшоў у спадчыну Радзівілам, тытуламі Хадкевічаў («граф на Ляхавічах», «граф на Быхаве» і інш.) карысталіся, завалодаўшы іх маёнткамі, прадстаўнікі роду Сапегаў. Да таго ж, займеўшы тытулярныя ўладанні, прадстаўнікі роду Сапегаў распаўсюджвалі тытул і на ўласныя маёнткі — Чарэю, Дуброўну, Заслаўе…

* * *

Маёнткі з тытулам не вылучаліся ў асобны від і форму ўласнасці. Як і тытулы асобы, тытул маёнтка меў фармальны характар, гэтыя ўладанні былі часткай агульнай магнацкай маёмасці. Тытулярнае уладанне з'яўлялася каштоўным здабыткам для роду, павялічвала яго прэстыж і давала выключнае права карыстацца асабістым тытулам. Тытул як атрыбут рабіў маёнтак і яго ўладара адметным ад іншых.

# БагатаДата

**Невядома чаму, але ў гэтыя дні ў розныя часы нараджаліся музыкі і кампазітары. А таксама адкрыўся Мінскі гарадскі тэатр. Што яшчэ адбылося цікавага — у нашым аглядзе.**

## 13 чэрвеня



**1755.** У Вільні з'явіўся на свет палітычны дзеяч, кампазітар і мецэнат Антоні Генрых Радзівіл. Кантактаваў з самымі вядомымі кампазітарамі свету, у тым ліку Бетховенам і Шапэнам. Сам вядомы музыкай да «Фауста» Гётэ: у 1990-х гадах адбылася прэм'ера гэтай оперы ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы.

## 14 чэрвеня

**Сусветныя дні донара крыві** і **Дзень блогера.** Таксама Дзень працаўнікоў лёгкай прамысловасці (адзначаецца ў Беларусі ў другую нядзелю чэрвеня).

**1900.** У вёсцы Несцеравічы Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці нарадзіўся спявак-



тэнар Міхась Забэйда-Суміцкі. Выступаў па ўсім свеце, спяваў на 16 мовах. Натуральна, шмат выконваў беларускіх песень. Першы канцэрт на радзіме даў у 1935 годзе ў Ружанах. Пераследаваўся Гестапа і КДБ. Пасля Другой сусветнай вайны застаўся жыць у Празе. Пахаваны на пражскіх Ольшанскіх могілках побач з Пётрам Крэчэўскім і Васілём Захаркам — прэзідэнтамі БНР.

## 15 чэрвеня

**Сусветныя дні ветру, матацыкліста і распаўсюду інфармацыі аб злоўжываннях датычна пажылых людзей.**

**1955.** У сталіцы Аўстрыі Вене нарадзіўся беларуска-літоўскі кампазітар Вячаслаў Кузняцоў. Яго творы: опера «Запіскі вар'ята», балеты «Дванаццаць крэслаў», «Паланез», «Цар Саламон», «Макбет», «Клеапатра».

## 16 чэрвеня

**Міжнародны дзень сямейных грашовых пераводаў.**

**1875.** У Вільні нарадзіўся беларуска-літоўскі кампазітар, дырыжор і педагог Канстанцін Галкоўскі. Ім напісаны дзясяткі песень на словы Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Танка, Змітрака Бядулі, Канстанцыі Буйло, Міхася Машары. У Беларусі забыты, а вось у Літве Галкаўскас быў ушанаваны званнем народнага артыста. Не згадваецца, што ён беларус, і на мемарыяльнай шыльдзе на адным з дамоў па віленскай вуліцы Завальная (Pylimo gatvė).

**1895.** У вёсцы Навілаўка Веткаўскага раёна на Гомельшчыне нарадзіўся вучоны ў галіне глебазнаўства, доктар сельскагаспадарчых навук Павел Рагавой. Дырэктар Беларускага навукова-даследчага інстытута глебазнаўства, адзін са складальнікаў глебавай карты БССР.

## 17 чэрвеня

**Сусветны дзень барацьбы з засухай.**

**1890.** Адкрыўся Мінскі гарадскі тэатр (цяпер у гэтым будынку працуе Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы).

## 18 чэрвеня

**1950.** У Свіслачы на Гродзеншчыне нарадзіўся філосаф



і літаратар Валянцін Акудовіч. Аўтар філасофскіх і літаратурна-мастацкіх кніг «Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека», «Разбурыць Парыж», «Дыялогі з Богам», «Код адсутнасці. Асновы беларускай ментальнасці», «Прачнуцца ранкам у сваёй краіне».

## 19 чэрвеня

**Міжнародны дзень прагулкі.** А таксама **Міжнародны дзень барацьбы з сексуальным гвалтам ва ўмовах канфлікту.**

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

# Паспейце падпісацца!

**Шаноўныя чытачы!**

Ужо зусім хутка, 26 чэрвеня, заканчваецца тэрмін, калі можна аформіць падпіску на газету «Новы Час» **на II паўгоддзе. Кошт падпіскі на 6 месяцаў — 22 рублі 98 капеек.**

Для кагосьці з вас гэта адчувальная сума, таму ёсць магчымасць аформіць падпіску **на 3 месяцы за 11 рублёў 49 капеек**, ці нават падпісвацца штомесяц за **3 рублі 83 капейкі.** Падпісацца можна ў паштовым аддзяленні, а таксама праз інтэрнэт на сайце РУП «Белпошта».

Толькі, калі ласка, не забывайце, што трэба паспець падпісацца **да 25-га дня кожнага месяца.**

Для вас, нашы чытачы, мы пра панует адмысловую віктарыну. **Кожны месяц** у нашых артыкулах мы будзем шыфраваць адно слова (пра тое, у якім артыкуле будзе гэта слова, вы даведаецеся на апошняй старонцы апошняга нумару месяца). У выніку атрымаецца сказ, які трэба будзе даслаць на наш электронны альбо паштовы адрас ці ў паведамленні ў сацсетках **да 20 снежня 2020 года.** Тузін першых, хто дашле нам зашыфраваны сказ, атрымае ад рэдакцыі памятныя прызы.

«Новы Час» — адзіная ў краіне штотыднёвая незалежная грамадска-палітычная беларускамоўная газета. Для нас вельмі важна ваша падтрымка. Без вас газета даўно б перастала існаваць. Мы вельмі цешымся, што вы ў нас ёсць. Але заклікаем: падпішыце сваіх сяброў, сваякоў ці проста суседзяў.

**Давайце разам пашыраць дэмакратычную беларускамоўную прастору. Давайце разам рабіць нашу краіну лепшай!**

Для тых, хто робіць «Новы Час», гэта больш чым праца. Гэта частка жыцця. За сваю 18-гадовую гісторыю газета атрымлівала міжнародныя ўзнагароды, перажывала ўзлёты (і тады ў нас была магчымасць распаўсюджваць папяровую версію выдання бясплатна), зведала суды (мы вельмі ўдзячныя вам за падтрымку ў той час), а таксама вельмі балючыя страты (у 2015-м гэты свет пакінуў галоўны рэдактар газеты Аляксей Кароль). Але пры любым раскладзе газета працягвала выходзіць.

І сёння, як ніколі, у такія складаныя часы, **мы вельмі спадзяемся на вашу падтрымку.** На тое, што вы, нашы любімыя чытачы, не дасце выданню загінуць. **Для нас важны кожны чытач, кожны падпісчык.**

Дэспатызм не можа існаваць у краіне да таго часу, пакуль не знішчаная свабода прэсы, казаў англійскі пісьменнік Чарльз Колтан. А наш беларускі класік Францішак Багушэвіч заклікаў: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі…»

***Падтрымайце незалежную беларускамоўную прэсу. Будзьма разам! Будзьма з «Новым Часам»!***

**Падпісны індэкс 63279**




Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №977

Падпісана да друку 12.06.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.